● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

3 жніўня 1996 г.
субота, № 194 (22997)



# ЗВЯЗДА

*РОЗГАЛАС*

## ВЫПРАБАВАННІ БЕЛАРУСКАГА КАМБАЙНА ПАЧАЛІСЯ

**Першы беларускі збожжаўборачны камбайн ротарнага тыпу «Палессе-Ротар», распрацаваны і выраблены на аб'яднанні «Гомсельмаш», быў апрабаваны 1 жніўня.**

Выпрабаванне адбывалася ў калгасе імя Урыцкага, што на Гомельшчыне. Першая абкатка паказала, што тэхнічная задумка выканана правільна. Звычайна акупнасць праекта падобнай тэхнікі адбываецца праз 5—7 гадоў. Паводле слоў генеральнага канструктара «Гомсельмаша» Валянціна Шурына, пры дзяржаўнай падтрымцы «Палессе-Ротар» акупіць сябе праз 3 гады. На наступным тыдні працягнуцца выпрабаванні новай машыны, а канчатковы вердыкт будзе вынесены пасля заканчэння ўборачных работ. Першы беларускі камбайн ротарнага тыпу здольны ўбіраць збожжавыя каласавыя культуры, насеннікі траў, кукурузу. Па меркаванню спецыялістаў, гомельскі камбайн здольны саставіць канкурэнцыю «Дону», які выпрабляе «Россельмаш».

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ПРЭЗІДЭНТ АДНАВІЎ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

**Камерцыйны банк «Пріорбанк» пераввёў грашовыя сродкі ў суме больш як 112 млн. нямецкіх марак па распараджэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі ў акцыянерны ашчадны банк «Беларусбанк».**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, такое рашэнне Аляксандра Лукашэнкі неадкладна было прынята пасля праверкі Службай кантролю кіраўніка дзяржавы правільнасці выдачы кампенсацый ветэранам, якія пацярпелі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Праверкай устаноўлена, што сродкі фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне», якія паступаюць у Беларусь з ФРГ праз камерцыйны банк «Пріорбанк», своечасова не даходзілі да тых былых дзяцей вайны, вязняў канцэнтрацыйных лагераў, якія маюць патрэбу ў іх, хто ў большай ступені перажыў усе жахі трагедыі тых гадоў. На чалавечым горы нажываліся ўсе, хто меў доступ у «Пріорбанк» для атрымання льготных крэдытаў.

Прэзідэнт запатрабаваў ад Службы кантролю, каб кожны грамадзянін Беларусі, каму прызначаны гэтыя сродкі, атрымаў іх у поўным аб'ёме і своечасова.

**БЕЛТА.**

## НА ЖНІВЕ ПРАСТОЯЎ НЕ БУДЗЕ

**Своечасова адрэагавалі кіраўнікі нафтавых кампаній «ЛУКойл» і «ЮКАС» на селектарную нараду па праблемах аграпрамысловага комплексу рэспублікі, якая была праведзена ў канцы ліпеня з удзелам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.**

Яны абавязалі беларускія структуры ЗАТ «РосБелНафта» і МЗАТ «ЛУКойл-Белоруссия» забяспечыць у першую чаргу ўборачную гэтага года бензінам, дызельным палівам і мазутам у аб'ёме да ста тысяч тон і па цэнах, што склаліся на ўнутраным рынку краіны, у тым ліку з дапамогай таварных крэдытаў.

Генеральны дырэктар ЗАТ «РосБелНафта» паведаміў у Адміністрацыю Прэзідэнта, Кабінет Міністраў і аператыўны штаб рэспублікі па падрыхтоўцы і правядзенню ўборкі ўраджаю, што ЗАТ «РосБелНафта» і МЗАТ «ЛУКойл-Белоруссия» за сем месяцаў гэтага года паставілі вёсцы 58 тысяч тон нафтапрадуктаў на 17,6 мільёна амерыканскіх долараў з адтэрміноўкай плацяжоў на 35—40 дзён.

**БЕЛТА.**



Яўген ПЯСЕЦКІ

## КРЭВА

*Мы глушцы! — Але чуем...*
*Мы нямкі! — Ды пяём!*
*У катоўнях жартуем,*
*Па вуголлі ідзём.*
*Сеем, што не уродзіць,*
*П'ём атруту-палын,*
*І мінаюць стагоддзі*
*Пад званы-кайданы...*
*Што цяпер прычакаем?*
*Вольны шлях ці хаўрусы?*
*Усё, браточкі, стрываем,*
*Бо мы ёсць БЕЛАРУСЫ!*

**Крэва. На прасцягах Бацькаўшчыны няшмат засталося такіх вёсак. У рачулцы Краўлянцы семсот гадоў таму паілі коней ваяры Нальшчанскай зямлі, лепшыя прыгажуні Крэўскага княства кідалі вянкі ў гэтыя хвалі, Вялікі князь літоўскі Гедымін, зачараваны прыгажосцю гэтых берагоў, збудаваў тут у сярэднявеччы замак-крэпасць.**

**Прыйдзіце да муроў гэтага замка, адчуйце прахалоду старых сцен, краніце шаўкавістасць траў, над якімі прамінулі стагоддзі...**

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## КАЛЕКТЫВУ БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНКІ

З вялікім задавальненнем віншую рабочых, служачых, кіраўнікоў усіх рангаў Беларускай чыгункі з прафесіянальным святам — Днём чыгуначніка.

У Беларускай чыгункі, якая хутка адзначыць сваё 125-годдзе, склаліся добрыя традыцыі, стаў непарушным правілам высокі ўзровень дысцыпліны і прафесіянальнай адказнасці. Гэта вельмі істотна, таму што ад дакладнасці і бяспекі чыгуначнага руху, культуры абслугоўвання пасажыраў у многім залежыць бесперапыннае функцыянаванне ўсяго народнагаспадарчага механізма рэспублікі.

Ваша галіна, якая нядаўна атрымала статус самастойнай, у цэлым дастойна выконвае ўскладзеныя на яе функцыі. У няпростай рыначнай сітуацыі беларускія чыгуначнікі знаходзяць і ставяць на службу вытворчасці ўнутраныя рэзервы, пастаянна клапоцяцца аб зніжэнні выдаткаў перавозак, паспяхова вырашаюць многія сацыяльныя пытанні.

У аснове вашых дасягненняў — упэўнена ўзяты курс на няўхільнае тэхнічнае пераўзбраенне галіны, трывалыя сувязі з беларускімі прадпрыемствамі, умелая каардынацыя дзеянняў з калегамі з блізкага і далёкага замежжа, здаровы дух працоўнага саперніцтва. Гэта добры прыклад для іншых галін народнай гаспадаркі рэспублікі.

Мне помняцца многія сустрэчы і гутаркі з чыгуначнікамі. Я з вялікай зацікаўленасцю ўспрымаю іх патрэбы, усяляк садзейнічаю своечасоваму вырашэнню праблем, што накапіліся.

Дзякуй вам, людзям ганаровай і патрэбнай грамадству прафесіі, за стваральную працу.

Жадаю ўсім вам, вашым сем'ям, родным і блізкім шчасця, здароўя, дабрабыту.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

# АКЦЫЯНІРАВАЦЦА? З РОЗУМАМ

**Другую палову дня 1 жніўня Прэзідэнт Беларусі прысвяціў вырашэнню праблем Мазырскага солевыварнога камбіната. Дырэктар прадпрыемства Мікалай Новікаў пазнаёміў з вытворчасцю і работай калектыву. У цэхах Аляксандр Лукашэнка падоўгу гутарыў з рабочымі, цікавіўся вытворчымі працэсамі.**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

### «У СВАЁЙ КРАІНЕ Я НІЧОГА НЕ БАЮСЯ»

Свае адносіны да нядаўняй заявы старшыні Камітэта па бяспецы Дзярждумы Расіі Віктара Ілюхіна Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўпершыню публічна выказаў 1 жніўня ў час сустрэчы з працоўным калектывам Мазырскага солевыварнога камбіната. Ён падкрэсліў, што дагэтуль нічога не гаварыў наконт гэтага толькі з-за апасенняў, што ва ўзнікшай сітуацыі зноў абвінавацяць беларускі бок.

«Калі гэта спроба памацаць мае нервы, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — то ў 40 гадоў яны ў мяне моцныя. Калі папужаць, то ў сваёй краіне я нічога не баюся». Разам з тым Прэзідэнт адзначыў, што КДБ рэспублікі праводзіць праверку звестак, аб якіх паведаміў Віктар Ілюхін. І калі яны пацвердзяцца, то Аляксандр Лукашэнка будзе вымушаны звярнуцца па абарону да народа.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

Мазырскі солевыварны камбінат быў уведзены ў строй у канцы 1982 года з праектнай магутнасцю 360 тысяч тон солі штогод. На яе калектыў выйшаў ужо ў 1987 годзе. Прадпрыемства з'яўляецца адным з буйнейшых у краінах СНД, якія выпускаюць харчовую соль гатунку экстра. Распрацоўка Мазырскага месцанараджэння каменнай солі вядзецца з глыбіні 700—1240 метраў спосабам падземнага растварэння праз буравыя свідравіны з паверхні. Насычаныя хларыдна-натрыевыя расолы па трубаправодах транспартуюцца на камбінат.

Мазырская соль гатунку экстра «Палессе» па сваіх якасных паказчыках з'яўляецца унікальнай за кошт таго, што ў ёй высокае ўтрыманне асноўнага прадукту — 99,85 працэнта масы і нязначнае ўтрыманне прымесяў. Яе якасныя характарыстыкі даўно ўжо пераўзышлі самыя жорсткія патрабаванні міжнародных стандартаў, і ў 1993 годзе конкурсным камітэтам дырэкцыі дзелавых ініцыятыў у рамках XIX Еўрапейскага міжнароднага конкурсу прадукцыі Мазырскага солевыварнога камбіната была прысуджана «Міжнародная Залатая Зорка».

Трэба таксама адзначыць і тое, што па рэкамендацыях медыкаў камбінат асвоіў пяць відаў солі, кожны з якіх дзякуючы спецыяльным дабаўкам мае лекавыя ўласцівасці пры артэрыяльнай гіпертаніі, застойнай сардэчна-сасудзістай недастатковасці, празмернай масе цела, прафілактыцы эндэмічнага зоба ў раёнах з дэфіцытам ёду ў харчовых прадуктах і вадзе, карыесу зубоў, ад якога ў Беларусі пакутуе больш за 95 працэнтаў дарослага насельніцтва.

Але вось бяда: выпуск солі камбінат зменшыў з 357,5 тысячы тон у 1991 годзе да 184,6 тысячы тон летась — амаль удвая. Сёлета за два кварталы выраблена яе крыху больш за 75 тысяч тон. Асноўнымі спажыўцамі яе цяпер з'яўляюцца наша краіна, Расія, Венгрыя, Балгарыя, Прыбалтыка. Апошнім часам (летась і сёлета) зменшыўся аб'ём рэалізацыі мазырскай солі ў Беларусі і краінах СНД з-за таго, што з'явіліся новыя вытворцы яе — «Беларуськалій», «Уралкалій» (а мазырская соль выкарыстоўваецца не толькі насельніцтвам і прадпрыемствамі харчовай прамысловасці, але і хімічнымі прадпрыемствамі, электрастанцыямі, заводамі па вытворчасці пластмас, прадпрыемствамі гарбарнай прамысловасці, шклозаводамі і г. д.), чыя прадукцыя горшай якасці, але таннейшая па цане.

Зніжэнне плацежаздольнасці пакупнікоў, такія ўнутраныя праблемы прадпрыемства, як старэнне і знос тэхналагічнага абсталявання, якое працуе ў агрэсіўным асяроддзі, запазычанасці ў вялікіх памерах водаправодна-каналізацыйнай гаспадарцы і энергетыкам, адсутнасць фінансавых сродкаў для набыцця вельмі неабходнага абсталявання для расфасоўкі солі ў кардонныя каробачкі і пластмасавыя слоікі ёмістасцю ад 500 да 140 грамаў (зараз яна фасуецца ў цэлафанавыя пакеты вагой адзін кілаграм і затарваецца ў мяшкі ў пяцьдзесят кілаграмаў), адносна вузкія рынкі збыту прадукцыі з-за таго, што яны ўжо даўно падзелены — усё гэта прывяло да таго, што прадпрыемства апынулася ў цяжкім становішчы.

Калектыў камбіната выступіў ініцыятарам пераўтварэння прадпрыемства ў адкрытае акцыянернае таварыства з удзелам замежнага інвестара — фірмы «Акзо Нобель» з Галандыі. Дыяпазон яе прадукцыі ўключае ў сябе вытворчасць хімічных рэчываў, фарбаў, фарбавальнікаў, апрэтур, смол, валокнаў, электронных вырабаў і фармацэўтычнай прадукцыі. Фірма дзейнічае па ўсім свеце, і на яе прадпрыемствах занята звыш сямідзесяці тысяч чалавек. На канферэнцыі працоўнага калектыву, дзе прысутнічалі таксама прадстаўнікі фірмы, якія адказвалі на многія пытанні людзей, 135 чалавек прагаласавалі за акцыяніраванне і 40 — устрымаліся. Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Праграмы раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1996 год» пачаліся работы па ацэнцы маёмасці, быў распрацаваны праект дагавора аб сумеснай дзейнасці акцыянернага таварыства, праект статута. Пэўныя дакументы паступілі ўжо ў галіновую камісію Мінсельгасхарча рэспублікі.

Што ж чакае калектыў пасля акцыяніравання? На працягу двух гадоў дзякуючы фінансавым уліванням фірмы прадпрыемства выйдзе на поўную магутнасць і мяркуе выпрабляць да чатырохсот тысяч тон солі ў год. Фірма гарантуе збыт яе ў шэраг краін праз свае Маскоўскае, Санкт-Пецярбургскае і міжнародныя гандлёвыя прадстаўніцтвы, тэхнічнае абнаўленне камбіната, захаванне ўсіх сацыяльных ільгот калектыву і г. д.

І вось сустрэча работнікаў прадпрыемства ў канферэнц-зале з Прэзідэнтам пасля нарады яго з кіраўнікамі камбіната і горада, прадстаўнікамі Кабінета Міністраў, міністрамі, банкірамі і г. д.

— Я разумею вашу заклапочанасць становішчам спраў, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — але мяне насцярожвае наступнае. Вы згаджаецеся 51 працэнт акцый аддаць галандцам — гэта кантрольны пакет, а сабе пакінуць 49 працэнтаў іх. Такім чынам, вы прадаяцеся за дзесяць ці больш мільёнаў долараў. Прычым без усякага тэндэра. І чаму гэта без конкурсу? Чаму не пашукалі больш выгаднага партнёра? Мо таму, што значна палепшыцца ваша матэрыяльнае становішча? Так, гэта будзе. Але вы, дарагія таварышы, забылі, што такія прадпрыемствы, як ваша (Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, МАЗ, БелАЗ і іншыя), — гэта наша агульнанацыянальнае багацце, уласнасць рэспублікі, усяго народа. У гэтай справе трэба рабіць так, каб выгадна было ўсім. Таму давайце адкладзём вырашэнне гэтага пытання на тры месяцы. Чакаем ад вас некалькіх варыянтаў выпраўлення спраў, не здымаючы з парадку дня і варыянт з галандцамі, але на іншых умовах. Ваша прадукцыя хадавая, вы ў трубу не вылеціце, таму думайце больш грунтоўна. І ў далейшым да акцыяніравання мы будзем падыходзіць вельмі скрупулёзна.

Другая праблема, якая разглядалася на сустрэчы Прэзідэнта з калектывам, датычылася запазычанасці дзяржавы ў асобе горада камбінату 23,5 мільярда рублёў за цяпло, якім прадпрыемства забяспечвае жылыя мікрараёны Мазыра. Аляксандр Лукашэнка запэўніў, што яна будзе вырашана да пачатку ацяпляльнага сезона. Затым ён адказаў на шматлікія пытанні людзей, якія з першых вуснаў Прэзідэнта хацелі пачуць пра яго адносіны да эканамічнага і палітычнага становішча рэспублікі, зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва краіны і перспектыў на будучае.

Затым Прэзідэнт узяў курс на Жыткавіцкі раён.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# НЕАБХОДНАСЦЬ ПЕРАМЕН У ПАДАТКААБКЛАДАННІ ПРЫЗНАЕЦЦА ЎСІМІ

Канцэпцыя рэфарміравання падатковай сістэмы краіны была разгледжана на чарговым пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях, якое адбылося 1 жніўня пад старшынствам віцэ-прэм'ера Сяргея Лінга. Прамоўцы падкрэслівалі, што неабходнасць перамен у галіне падаткаабкладання прызнаецца ўсімі. Аднак няма адзінства ў падыходах да рэфарміравання падатковай сістэмы.

Гэта праблема была разгледжана ўдзельнікамі пасяджэння з розных пазіцый — дзяржаўных структур, работадаўцаў і прафсаюзаў. Быў дадзены аб'ектыўны аналіз існуючай падатковай палітыкі і яе ўплыву на эканоміку краіны. Адзначалася, што падаткі, якія з'яўляюцца фактарам пераразмеркавання даходаў, у канчатковым выніку вызначаюць такія важныя параметры эканамічнага развіцця, як тэмпы росту вытворчасці, узровень і дынаміка спажывання, інвестыцый і экспарту. Ад канкрэтных рашэнняў у гэтай галіне залежыць паглыбленне або пераадоленне крызісных тэндэнцый у эканоміцы.

Як вядома, па даручэнню Прэзідэнта з лета мінулага года пачалася работа па падрыхтоўцы праекта падатковага кодэкса рэспублікі. Істотныя карэктывы ўнесены ў падатковае заканадаўства ўжо на 1996 год. Куды ж ісці далей? Наколькі прымальны для нашай эканомікі вопыт развітых краін і ў якой меры можна арыентавацца на расійскае падатковае заканадаўства?

Удзельнікі пасяджэння былі аднадушныя ў думцы, што лакальнымі змяненнямі, нават з улікам змяншэння колькасці падаткаў, іх ставак і льготных рэжымаў, сёння не абысціся. Такія карэкціроўкі, лічыць намеснік міністра эканомікі Юрый Енін, не могуць ні забяспечыць дастатковых і стабільных паступленняў у бюджэт, ні зрабіць сістэму арыентаванай на ўстойлівы эканамічны рост і інвестыцыі.

Зроблена выснова, што неабходны радыкальныя перамены ў структуры падаткаабкладання і мадэлях пабудовы кожнага з асноўных падаткаў. Гэта ў сваю чаргу запатрабуе змяненняў у дзеючых нормах падатковага права, якое па сутнасці трэба будзе стварыць нанава, а таксама ў тэхніцы спагнання і збору асноўных падаткаў. Заяўлена, што галоўная мэта рэформы — рэальна забяспечыць эфектыўнае, роўнае і справядлівае падаткаабкладанне ўсіх эканамічных агентаў, як грамадзян, так і прадпрыемстваў, незалежна ад іх арганізацыйна-прававых формаў, відаў уласнасці і галіновай прыналежнасці.

Нацыянальны савет разгледзеў таксама пытанне аб запазычанасці па заработнай плаце і забеспячэнню паўнаты выплаты адпускных работнікам адукацыі. Прынята таксама прапанова Федэрацыі прафсаюзаў аб разглядзе на чарговым пасяджэнні пытання аб ходзе рэалізацыі Генеральнага пагаднення паміж Кабінетам Міністраў, рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзаў на бягучы год.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**


Atlanta 1996

XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

## ТАБЛІЦА РАЗМЕРКАВАННЯ 202 КАМПЛЕКТАЎ УЗНАГАРОД ПАСЛЯ ТРЫНАЦЦАЦІ ДЗЁН СПАБОРНІЦТВАЎ

| | «Золата» | «Серабро» | «Бронза» | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. ЗША | 32 | 31 | 16 | 79 |
| 2. Расія | 21 | 16 | 10 | 47 |
| 3. Кітай | 16 | 19 | 11 | 46 |
| 4. Францыя | 14 | 6 | 14 | 34 |
| 5. Германія | 12 | 13 | 21 | 46 |
| 6. Італія | 11 | 6 | 9 | 26 |
| 7. Аўстралія | 8 | 9 | 18 | 35 |
| 8. Украіна | 7 | 2 | 8 | 17 |
| 9. Карэя | 6 | 9 | 5 | 20 |
| 10. Польшча | 6 | 5 | 3 | 14 |
| 11. Румынія | 4 | 5 | 6 | 15 |
| 12. Венгрыя | 4 | 3 | 6 | 13 |
| 13. Грэцыя | 4 | 3 | 0 | 7 |
| 14. Швейцарыя | 4 | 1 | 0 | 5 |
| 15. Куба | 3 | 5 | 8 | 16 |
| 16. Японія | 3 | 5 | 3 | 11 |
| 17. Бразілія | 3 | 2 | 6 | 11 |
| 18. Новая Зеландыя | 3 | 2 | 1 | 6 |
| 19. Іспанія | 3 | 1 | 2 | 6 |
| 20. Данія | 3 | 1 | 1 | 5 |
| 21. Ірландыя | 3 | 0 | 1 | 4 |
| 22. Турцыя | 3 | 0 | 1 | 4 |
| 23. Канада | 2 | 8 | 7 | 17 |
| 24. Галандыя | 2 | 4 | 9 | 15 |
| 25. Казахстан | 2 | 3 | 1 | 6 |
| 26. Бельгія | 2 | 2 | 2 | 6 |
| 27. КНДР | 2 | 1 | 2 | 5 |
| 28. ПАР | 2 | 1 | 1 | 4 |
| 29. Эфіопія | 2 | 0 | 0 | 2 |
| **30 Беларусь** | **1** | **5** | **8** | **14** |
| 31. Вялікабрыт. | 1 | 5 | 5 | 11 |
| 32. Швецыя | 1 | 3 | 1 | 5 |
| 33. Ямайка | 1 | 3 | 0 | 4 |
| 34. Чэхія | 1 | 2 | 3 | 6 |
| 35. Фінляндыя | 1 | 2 | 0 | 3 |
| 36. Нарвегія | 1 | 1 | 3 | 5 |
| 37. Інданезія | 1 | 1 | 2 | 4 |
| 38. Арменія | 1 | 1 | 0 | 2 |
| 39. Славакія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 40. Югаславія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 41. Ганконг | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 42. Коста-Рыка | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 43. Сірыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 44. Эквадор | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 45. Балгарыя | 0 | 4 | 4 | 8 |
| 46. Кенія | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 47. Намібія | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 48. Славенія | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 49. Аўстрыя | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 50. Іран | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 51. Малайзія | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 52. Аргенціна | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 53. Замбія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 54. Тайвань | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 55. Узбекістан | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 56. Харватыя | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 57. Нігерыя | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 58. Трынідад і Табага | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 59. Грузія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 60. Ізраіль | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 61. Малдова | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 62. Мексіка | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 63. Мазамбік | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 64. Манголія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 65. Уганда | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 66. Марока | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 67. Партугалія | 0 | 0 | 1 | 1 |

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# СТВОРАНА КАМІСІЯ

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, 1 жніўня 1996 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў распараджэнне аб стварэнні камісіі па праверцы выканання ўказаў, распараджэнняў і асобных даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабінетам Міністраў, Адміністрацыяй, Службай кантролю і Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта, міністэрствамі, іншымі органамі кіравання і службовымі асобамі.

Старшынёй камісіі назначаны дзяржаўны сакратар Савета бяспекі В. Шэйман, намеснікам — начальнік Службы кантролю Прэзідэнта М. Дамашкевіч. У састаў камісіі ўвайшлі кіраўнікі і спецыялісты апарату Савета бяспекі, шэрага міністэрстваў і цэнтральных органаў кіравання рэспублікі.

Вынікі работы камісіі павінны быць дакладжаны кіраўніку дзяржавы не пазней за 28 жніўня г. г.

**БЕЛТА.**

## ПРАГРЭСУ І ПРАЦВІТАННЯ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ, ЗДАРОЎЯ І ШЧАСЦЯ ПРЭЗІДЭНТУ АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ ЖАДАЮЦЬ КІРАЎНІКІ КРАІН ЗАХАДУ І УСХОДУ

На імя Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі працягваюць паступаць віншаванні ў сувязі з шостай гадавінай незалежнасці Беларусі.

***

Кароль бельгійцаў Альберт II піша Прэзідэнту: «З нагоды святкавання Нацыянальнага свята Рэспублікі Беларусь накіроўваю Вашаму Правасхадзіцельству і ўсім вашым суайчыннікам цёплыя віншаванні.

Выказваю свае самыя шчырыя пажаданні шчасця і працвітання народу Беларусі».

***

Ад імя камбаджыйскага народа і ад сябе асабіста цёплыя віншаванні народу Беларусі і Прэзідэнту прыслаў кароль Камбоджы Нарадом Сіянук. Ён заклікаў умацоўваць дружбу паміж народамі дзвюх краін і запэўніў Аляксандра Лукашэнку ў сваёй самай высокай павазе.

***

Прэзідэнт Швейцарскай Канфедэрацыі Жан-Паскаль Дэламюра ў сваім пасланні на імя Прэзідэнта адзначае: «Карыстаючыся выпадкам, які прадставіўся мне ў сувязі з Нацыянальным святам Рэспублікі Беларусь, хачу выказаць Вашаму Правасхадзіцельству самыя цёплыя віншаванні ад Савета Швейцарскай Канфедэрацыі і перадаць пажаданні шчасця вам асабіста, а таксама пажаданні працвітання вашай краіне».

***

Гатоўнасць сваёй краіны да супрацоўніцтва з Беларуссю выказаў у сваім віншавальным пасланні прэзідэнт Ісламскай Дзяржавы Афганістан прафесар Бурхануддзін Рабані.

***

Віншаванні з нагоды Дня Незалежнасці прыслалі таксама кіраўнік Сацыялістычнай Народнай Лівійскай Арабскай Джамахірыі палкоўнік Муамар Кадафі, прэзідэнт Народнай Рэспублікі Бангладэш Абдур Рахман Бісвас, кіраўнікі Філіпін і Непала.

**БЕЛТА.**

## І БАТОНЫ БЫВАЮЦЬ «ЗАЛАТЫЯ»...

Зусім непрыметна ляжаў такі батончык разам з іншымі прадуктамі на століку каля акна ў адным з купэ поезда Масква—Брусель. Але калі супрацоўнікі Брэсцкай мытні праверылі яго, то знайшлі ў белым хлебе... 55.600 нямецкіх марак.

А спрабавала выехаць з ім за граніцу сімпатычная жыхарка Расіі. Усяго ж з пачатку года брэсцкія мытнікі канфіскавалі кантрабанднай валюты больш чым на пятнаццаць мільярдаў беларускіх рублёў.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

# АБ ЧЫМ ДУМАЮЦЬ У СВЯТА ЧЫГУНАЧНІКІ? АБ СЕРВІСЕ ДЛЯ ПАСАЖЫРАЎ

***Сёлета беларускія чыгуначнікі ў другі раз адзначаюць сваё прафесіянальнае свята. Як вядома, указ аб яго заснаванні быў падпісаны Прэзідэнтам краіны ў мінулым годзе. Што гэта за дзень для любога прафесіянала, які ганарыцца сваёй працай, — тлумачыць не трэба. Менавіта напярэдадні святочнай даты і адбылася гутарка карэспандэнта «Звязды» з начальнікам вакзала «Станцыя Мінск-Пасажырскі» Беларускай чыгункі Уладзімірам ГРЫГАРОВІЧАМ.***

**— Найперш, Уладзімір Аляксандравіч, дазвольце павіншаваць з Днём чыгуначніка асабіста Вас і ўсіх Вашых падначаленых. Дарэчы, менавіта з калектыву і хацелася б пачаць размову: як памятаеце, кадры вырашаюць усё...**

— Дзякуй за віншаванне. А на станцыі сёння працуюць 620 чалавек (два гады таму было больш за 700), большасць з якіх — жанчыны. Сярэдні заробак працуючых за паўгоддзе склаў 1 млн. 228 тысяч рублёў, за ліпень з улікам усіх заахвочванняў «набяжыць» да 1,5 млн. рублёў. Зразумела, ёсць некаторыя прафесіі (у першую чаргу мужчынскія), дзе чыгуначнікі атрымліваюць і да двух мільёнаў (дзяжурныя па станцыі, саставіцелі паяздоў), але многія — прыбіральшчыцы, работнікі гасцініцы — зарабляюць і значна менш за сярэдні ўзровень. Але людзі трымаюцца за сваю працу. Пацвярджэнне таму — практычна поўная адсутнасць скаргаў на работнікаў станцыі з боку пасажыраў. Касірка, што павысіла голас падчас абслугоўвання, гэта хутчэй даўніна, чым сучаснасць.

**— А што з тэхнічным паркам? Сённяшняя нестабільнасць — наколькі балюча яна б'е па вас?**

— Усе электрацягнікі (каля 50 адзінак) былі закуплены амаль адначасова 15—16 гадоў таму. Ёсць цяжкасці і з дызель-цягнікамі. Усё гэта сёння каштуе вельмі шмат. Так, вагоны мы апошні раз куплялі тры гады назад, а разлічваемся за іх па сённяшні дзень. Асабліва адчувальна нас закранае прыгарадны напрамак, які з'яўляецца стратным. Калі ў Маскве ён дацыруецца за кошт гарадскога бюджэту, мэрыя закупляе цягнікі, дык нам прыходзіцца разлічваць толькі на сябе, набываючы ўсё за свае сродкі. А страты ад ільготнага праезду? Бывае, электрычка на трэць запоўнена льготнікамі розных катэгорый. Толькі за красавік бягучага года па аднаму нашаму мінскаму вакзалу недаатрымана (міждзяржаўныя і мясцовыя зносіны) ад праезду інвалідаў і ўдзельнікаў вайны 157 млн. рублёў, інвалідаў працы, студэнтаў і іншых катэгорый — 665,5 млн. рублёў, супрацоўнікаў праваахоўных органаў, сілавых ведамстваў — 5 млн. рублёў. За чэрвень страты склалі адпаведна 195 млн., 328 млн. і 2 млн. рублёў. Вось і лічыце. Змяншаецца аб'ём грузавых перавозак — многія прадпрыемствы, як вядома, прастойваюць.

**— Калі ёсць страты, іх рана ці позна трэба будзе пакрываць...**

— Магу заспакоіць чытачоў вашай газеты, што ў бліжэйшы час кошт праезду ў чыгуначным транспарце прыгарадных зносінаў застанецца ранейшым — 1200 рублёў за адну зону. У верасні, як і ў маі, пенсіянеры зноў змогуць месяц ездзіць у гэтых паяздах бясплатна.

**— Чыгунка — адзін з найбольш папулярных відаў транспарту падчас летняга адпачынку. Як вы спраўляецеся тут?**

— Упершыню за апошнія два гады сёлета з'явілася праблема з выездам на поўдзень. Ужо ў чэрвені мы адчулі, што цягнікоў на гэтым напрамку не хапае, таму зараз штодзень дадаткова ўведзены цягнікі на Адэсу, Сімферопаль, прычэпліваюцца таксама дадатковыя вагоны. Пасажыры гэтых цягнікоў звычайна набываюць адразу ў Мінску білеты і на зваротную дарогу, што, безумоўна, вельмі для іх зручна. Білеты на цягнікі паўднёвага напрамку можна (іх мала, але яны ёсць) набыць нават у дзень адпраўлення, а калі паклапаціцца аб іх хаця б за тыдзень — праблем, мяркую, зусім не павінна ўзнікнуць.

**— Уладзімір Аляксандравіч, не магу таксама не пацікавіцца будаўніцтвам новага будынка вакзала...**

— Згодна з указам Прэзідэнта, будаўніцтва будзе завершана ў канцы наступнага года — будаўнікі зараз працуюць у тры змены. Што зменіцца з яго ўводам у эксплуатацыю? Найперш палепшыцца сервіс абслугоўвання пасажыраў. Ужо зараз на гатовых плошчах мы арганізавалі гандаль, працуюць пошта, аптэка і інш. Дарэчы, даспадобы прыйшлася пасажырам гасцініца. Зручнасць (не трэба браць таксі), адносная таннасць (у пакоі маці і дзіцяці дзіцячае месца абыходзіцца ў 15 тысяч, дарослае — 30 тысяч рублёў у суткі, люкс — у 80 тысяч) прывялі да таго, што ў летні час яна запоўнена ў выхадныя дні напалову, у будні — недзе на 90 працэнтаў. А гэта ж яшчэ і даход. У чэрвені, напрыклад, ён склаў роўна 150 млн. рублёў. Як бачыце, усё для пасажыра!

**— Што ж, поспехаў вам у працы і ў далейшым і яшчэ раз са святам!**

**Гутарыў Сяргей РАСОЛЬКА.**

*МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА*

# ПАТЭНЦЫЯЛ БЕЛАРУСКА-ІРАНСКАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА ЯШЧЭ ВЯЛІКІ, І ЯГО ТРЭБА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ

Беларуска-іранскія адносіны, і перш за ўсё эканамічныя, у апошні час значна актывізаваліся. Пасля абмену ўрадавымі дэлегацыямі рост тавараабароту паміж дзвюма краінамі прыкметна павялічыўся. Тым не менш, патэнцыял гэтага супрацоўніцтва яшчэ вялікі, і яго неабходна выкарыстоўваць. Аб гэтым сказаў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір на перагаворах з прыбыўшым у Мінск міністрам замежных спраў Ірана Алі Акбарам Велаяці, якія адбыліся 1 жніўня.

Паводле слоў кіраўніка беларускага ўрада, цяпер можна знайсці дзесятак праектаў, рэалізацыя якіх, несумненна, стане выгаднай справай для абедзвюх дзяржаў. Зрэшты, як запэўніў кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Ірана, з палітычнага пункту гледжання ў яго краіны няма ніякіх абмежаванняў для расшырэння і паглыблення двухбаковага ірана-беларускага супрацоўніцтва. Галоўнае, лічыць міністр, што ўжо вядзецца дыялог на ўзроўні розных дэлегацый. А гэта так ці інакш будзе садзейнічаць развіццю сувязей паміж Беларуссю і Іранам.

Міхаіл Чыгір назваў галоўныя напрамкі, па якіх цяпер вядуцца перагаворы. У прыватнасці, вывучаюцца магчымасці супрацоўніцтва ў галіне стварэння магутнасцей у цэлюлозна-папяровай прамысловасці. У стадыі перагавораў — перспектывы супрацоўніцтва па вытворчасці цэменту, абмяркоўваюцца таксама магчымасці зборкі на тэрыторыі Ірана беларускіх трактароў і самазвалаў.

— Я не ўпэўнены, што ўсё гэта будзе ажыццёўлена, але калі мы рэалізуем хоць бы асобныя дагаворанасці, то гэта станоўча адаб'ецца на нашым супрацоўніцтве,— сказаў прэм'ер-міністр. На яго думку, настаў час, калі дзве дзяржавы павінны абмяняцца пастаяннымі прадстаўніцтвамі. «Напачатку, магчыма, гэта будуць не пасольствы, а гандлёвыя прадстаўніцтвы. Гэта няважна. Галоўнае, што штодзённа на месцах хтосьці будзе рухаць наперад усе дасягнутыя раней дагаворанасці», — адзначыў Міхаіл Чыгір.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## ПАЖАРЫ НА РАДЫЯЦЫЙНАЕ СТАНОВІШЧА ІСТОТНА НЕ ЎПЛЫВАЮЦЬ

**Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі з'явіліся паведамленні аб пагаршэнні радыяцыйнай абстаноўкі на тэрыторыі рэспублікі ў сувязі з ляснымі пажарамі.**

Камгідрамет Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пастаянна кантралюе радыяцыйнае становішча на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. На радыяцыйных картах за перыяд май—сярэдзіна ліпеня 1996 г. відаць, што радыяцыйная абстаноўка на тэрыторыі Беларусі істотна не мянялася, існуючыя невялікія змяненні магутнасці экспазіцыйнай дозы гама-выпраменьвання (МЭД) знаходзяцца ў межах пагрэшнасці вымяральнага прыбора. Пастаянныя назіранні, якія праводзяцца на сетцы радыяцыйнага маніторынгу (181-я рэперная пляцоўка), паказалі, што павелічэння ўтрымання радыенуклідаў у пробах глебы на тэрыторыі гэтых пляцовак не назіраецца — гэта значыць другаснага забруджвання падсцілаючай паверхні ў выніку лясных пажараў не выяўлена.

Пры пажарах гараць дрэвы, драўляныя пабудовы, лясная падсцілка, утрыманне радыенуклідаў у якіх значна ніжэйшае, чым у глебе.

Кароткачасовае павелічэнне ўтрымання радыенуклідаў у прыземным паветры пры лясных пажарах на тэрыторыі з высокімі ўзроўнямі радыеактыўнага забруджвання адбываецца непасрэдна ў зоне самога пажару і не ўплывае на змяненне радыяцыйнай абстаноўкі ў цэлым на тэрыторыі Беларусі.

**Іван МАЦВІЕНКА,**
**начальнік Цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя Камгідрамета МЧС РБ.**

# ПЕНСІЯ: спярша заробіш, а потым як знойдзеш

**Як увязаць памер заработнай платы і будучай пенсіі? Як дабіцца асабістай зацікаўленасці кожнага работніка ў рэгулярным адлічэнні ўзносаў у страхавы фонд? Як прагназіраваць колькасць пенсіянераў і сродкі, якія спатрэбяцца для іх утрымання? Адказаць на ўсе гэтыя пытанні павінен праект пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб падрыхтоўцы і арганізацыі ўвядзення персаніфікаванага ўліку пенсіённага страхавання, распрацаваны ў Міністэрстве сацыяльнай абароны.**

ПАКУЛЬ ЯШЧЭ НЕ ЯСНА, як канкрэтна будзе ўводзіцца персаніфікаваны ўлік: па рэгіёнах, як у Расіі, ці па сферах эканомікі, як у Кіргізіі. Пілотны праект метадаў рэалізацыі павінен з'явіцца толькі праз тры месяцы, але ўжо сёння можна з упэўненасцю сказаць, што ўлік станоўчага вопыту суседзяў па СНД дазволіў нам стварыць намнога больш эфектыўную сістэму налічэння пенсій, чым тая, што існуе цяпер. Напрыклад, адзін супрацоўнік на працягу агульнага працоўнага стажу (а менавіта ён з'яўляецца галоўным крытэрыем памеру пенсіі) часта знаходзіўся на бальнічным лісце, другая два-тры разы была ў дэкрэтным водпуску ці водпуску па догляду за дзецьмі, трэцяму залічваўся час службы ў арміі. Страхавыя ўзносы ва ўсіх падобных выпадках не выплачваліся, хоць стаж ішоў. А ў выніку ўсе, незалежна ад рэальнага працоўнага і фінансавага ўкладу, атрымліваюць аднолькавую пенсію.

— Каб пераадолець гэтую супярэчнасць, — адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам весніка БЕЛТА «У кабінетах улады» першы намеснік кіраўніка фонду сацыяльнай абароны насельніцтва РБ Леанід Пісарчык, — мы павінны забяспечыць дакладнасць звестак аб заработнай плаце і аб стажы выплат страхавых узносаў, які будзе крытэрыем пры налічэнні пенсіі. Цяпер Беларусь стаіць на парозе ўсеагульнага пераходу з працоўных на страхавыя кніжкі, куды будуць заносіцца ўсе звесткі аб яе ўладальніку. Плануем правесці гэтую акцыю разам з МУС, якім распрацаваны лічбавы код ідэнтыфікацыі асобы для новых пашпартоў. Гэты код хочам выкарыстаць і для страхавых кніжак. Працэс працаёмкі, але ён стварае рэальныя перадумовы для налічэння пенсій у адпаведнасці з працоўным удзелам і ў канчатковым выніку, будзе спрыяць фарміраванню інфармацыйнай базы для ўдасканальвання і рэалізацыі пенсіённага заканадаўства.

Многія кіраўнікі прадпрыемстваў, асабліва недзяржаўных, магчыма, будуць супраць прапануемай сістэмы. Наймальнікам намнога зручней налічваць страхавыя ўзносы (іх памер на 1996 год складае 35 працэнтаў ад памеру фонду заработнай платы) адной плацежнай ведамасцю за ўсіх супрацоўнікаў. Такі абязлічаны падыход дае наймальніку магчымасць хітрыць, прадстаўляючы няпоўныя звесткі аб супрацоўніках і іх заработнай плаце. Але пенсію дзяржава павінна плаціць усім. Вось і даводзіцца змяншаць яе памер адным, каб налічваць другім. Персаніфікаваны ж улік заахвочвае кожнага работніка сачыць за тым, каб наймальнік рэгулярна і ў поўным аб'ёме выплачваў за яго страхавыя ўзносы.

На пераход да страхавой сістэмы спатрэбіцца ад 5 да 7 гадоў. Але ўжо сёння ясна: выйграе ад укаранення гэтага новаўвядзення кожны, таму што цяпер рэальны памер пенсіі будзе залежаць толькі ад асабістага працоўнага ўкладу.

**Ларыса НЯКРАСАВА.**
*(Веснік БЕЛТА «У кабінетах улады»).*

## МІНЖЫЛКАМУНГАС: ЧАРГОВЫЯ ПРАПАНОВЫ ЎРАДУ

ДНЯМІ Міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі, як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік упраўлення эканомікі гэтай установы Вахтанг Вадзімавіч Валажанец, былі прадстаўлены чарговыя прапановы наконт пошуку сродкаў для пагашэння страт у функцыянаванні галіны.

Асноўнымі абавязковымі плацяжамі для камунальнікаў, як, дарэчы, і для ўсіх астатніх аб'ектаў гаспадарання, з'яўляюцца падаткі, плата за энерганосьбіты і заработная плата. Сродкаў для аднаўлення жыллёвага фонду застаецца вельмі і вельмі няшмат. Так, калі раней капітальны рамонт будынкаў рабіўся праз кожныя 10—15 гадоў, то зараз — усё радзей. А хто ж будзе плаціць за паслугі? Запазычанасць насельніцтва ЖЭСам з пачатку года павялічылася ледзь не ў 2 разы. Пра павышэнне тарыфаў зараз таксама не можа весціся гаворка — спажыўцы камунальных паслуг у пераважнай сваёй большасці знаходзяцца на тонкай рысе паміж жабрацтвам і дастойным існаваннем, хаця 80-працэнтнае пакрыццё жыхарамі затрат на абслугоўванне іх кватэр прадугледжвалася ў бюджэце бягучага года. Каб гэта здзейсніць, трэба павысіць тарыфы на тую ж ваду і іншыя атрыбуты гарадской цывілізацыі сама меней у паўтара раза.

Камунальнікамі робяцца зараз спробы (пакуль толькі ў горадзе Мінску) упарадкаваць разлікі грамадзян з абслуговымі ўстановамі праз пералік грошай не на рахунак ЖЭСаў, а прама канкрэтным прадпрыемствам, якія забяспечваюць жыхароў паслугамі. Гэты метад выклікае шмат папрокаў з боку плацельшчыкаў, але ж яго паўсюднае ўкараненне дазволіць больш эфектыўна збіраць грошы і, як вынік, нешта рабіць для паляпшэння якасці паслуг...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ГРОШЫ*

## ДОЛАР ЗАПАВОЛІЎ СВОЙ РОСТ

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта РБ № 236 ад 28 чэрвеня 1996 года, абменны курс беларускага рубля за долар да 31 снежня бягучага года быў устаноўлены не вышэй 15.500 рублёў. Аднак ад пачатку ліпеня «зялёны» пратрымаўся ў вызначаным «валютным калідоры» лічаныя дні: банкі адразу ж устанавілі курс продажу па максімуму — 15.500 рублёў. У той жа час «абменнікі» прымалі долар за 14.500—15.300 рублёў. Але банкі раптам узгадалі, што дылінгавыя прэміі і зборы, за кошт якіх да апошняга часу ўзрасталі каціроўкі валюты, ніхто не адмяняў. Наяўны рынак хутка адрэагаваў на гэтую акалічнасць. Да сярэдзіны лета ў пунктах абмену валюты «зялёны» нават за 15.800 рублёў доўга не чакаў свайго пакупніка. Аднак першапачатковы рух «бакса» гэтак жа нечакана спыніўся, як і некалі пачаўся. У выніку, дасягнуўшы адзнакі «пакупка — 15.000—15.600» і «продаж — 15.500—15.800» долар ужо трымаецца на ёй апошнія тры тыдні. Каб павысіць абарот наяўнай валюты, многія банкі прызначылі мінімальную розніцу паміж продажам і купляй — 100 пунктаў, чым адразу ж і прыцягнулі ўвагу кліентаў. Тым часам назіральнікі сцвярджаюць, што такое зацішша на валютным рынку — з'ява недаўгавечная. Свае прагнозы на гэты конт выказалі і спецыялісты Нацбанка. Так, у жніўні долар пераадолее шаснаццацітысячны рубеж і, хутчэй за ўсё, усталюецца на адзнацы 16.250 рублёў.

Эксперты галоўнага банка рэспублікі мяркуюць, што ў канцы трэцяга квартала бягучага года ў выніку плаўнай і паступовай дэвальвацыі беларускага рубля курс «зялёнага» наблізіцца да 17.000 рублёў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Будаўніцтва жылля пераходзіць ва ўласныя рукі

Статыстыка сцвярджае, што, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, у рэспубліцы расце агульная колькасць збудаванага жылля. Так, у першай палове года здадзена ў эксплуатацыю 717 тыс. кв. м жылля, што на 189 тыс. кв. м больш, чым у адпаведным перыядзе летась. Нашы грамадзяне ў сваіх марах палепшыць жыллёвыя ўмовы ўжо амаль не спадзяюцца на дзяржаўную кватэру. Перавага тут аддаецца жыллёва-будаўнічым кааператывам, за кошт якіх колькасць квадратных метраў за 6 месяцаў павялічылася ў параўнанні з мінулым годам у 5,2 раза. Мяркуючы па даных Мінстата, значная частка вясковага насельніцтва з часам перабярэцца ў горад. Вось і жыллёвых метраў для вяскоўцаў пабудавана ў гэтым годзе ў 7,3 разы меней, чым для гараджан.

Амаль не адстаюць ад ЖБК і індывідуальныя забудоўшчыкі, намаганнямі якіх жыллёвы фонд рэспублікі папоўніўся далёка не лішнімі 213 тыс. кв. м. Застаецца толькі здзіўляцца, адкуль людзі зараз бяруць грошы на такую дарагую справу, як уласнае будаўніцтва. Цэны на будаўнічыя матэрыялы не стаяць на месцы: за зборны жалезабетон, цэмент, будаўнічую кераміку і драўніну сёння даводзіцца плаціць у 1,2—1,4 раза больш, чым мінулым летам.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Мінскае арэнднае прадпрыемства аб'ёмнага блочнага домабудавання спадзяецца на лепшае

**Напярэдадні прафесіянальнага свята будаўнікоў карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з вядучымі спецыялістамі Мінскага арэнднага прадпрыемства аб'ёмнага блочнага домабудавання (МАПАБД): галоўным інжынерам Уладзімірам Апанаськам, начальнікам упраўлення прамысловай вытворчасці Уладзімірам Каленікам і начальнікам упраўлення будаўнічай вытворчасці Сяргеем Караневічам, які, дарэчы, і распачаў гутарку.**

— Наша прадпрыемства — адзінае ў Мінску, якое займаецца менавіта аб'ёмным будаўніцтвам. Мы поўнасцю манціруем дом — з пусткі, дзе плануецца яго ўзвядзенне, да ключа. Будуем вельмі хутка.

— Наш аб'ёмны блок, — падключыўся да размовы Уладзімір Каленік, — гэта ўжо гатовы пакой, які мы дастаўляем непасрэдна на месца будаўніцтва. Адным пад'ёмам крана забяспечваецца ўстаноўка аднаго пакоя. Іншае пытанне заводская гатоўнасць — мы можам ставіць і вокны, і дзверы, нават шпалеры клеіць. Але тут ужо ўсё залежыць ад фінансавання: калі раней існавала пэўная дзяржаўная жыллёвая праграма, мы атрымлівалі бюджэтныя сродкі, а зараз прыходзіцца працаваць з канкрэтным заказчыкам. На прадпрыемстве сёння працуюць 1100 чалавек, існуе яно з 1970 года. За гэты час мы пабудавалі каля 500 дамоў, у якіх было 35.800 кватэр.

— Сёлета, — зазначыў Уладзімір Апанаська, — мы ўвялі 26.199 кв. м агульнай плошчы жылля. А да верасня гэтая лічба павінна павялічыцца да 59.259 кв. м. Асноўны наш козыр — мабільная тэхналогія. І заказчыкі заўсёды ёсць. Наша прадпрыемства праводзіць будаўніцтва ў Мінску (раёны Малінаўка, Чыжоўка, Уручча і іншыя) і Мінскай вобласці. Мы знаходзілі сілы трымацца, пакуль заказчыкі аддавалі нам грошы за зробленае. А калі перасталі плаціць (зараз іх доўг складае больш за дзесяць мільярдаў) — адразу пачаліся цяжкасці.

— У будучае ўсё ж глядзім з аптымізмам, — лічыць Уладзімір Каленік, — верым, што насельніцтва атрымае танныя камфортныя кватэры, пабудаваныя менавіта Мінскім арэндным прадпрыемствам аб'ёмнага блочнага домабудавання.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*КАНФЕРЭНЦ-ЗАЛА*

## АРГКАМІТЭТ ПА ПРАВЯДЗЕННЮ «КРУГЛАГА СТАЛА» СПАДЗЯЕЦЦА НА ЎДЗЕЛ ПРЭЗІДЭНТА

«Мы спадзяёмся на канструктыўнае супрацоўніцтва з усімі палітычнымі сіламі» — гэтыя словы Прэзідэнта, сказаныя ім падчас святкавання Дня Незалежнасці яшчэ два гады таму, павінны стаць сапраўдным дэвізам маючага адбыцца «круглага стала» з удзелам усіх палітычных сіл Беларусі. Такая думка была выказана членамі аргкамітэта на прайшоўшай учора прэс-канферэнцыі.

Як вядома, упершыню з прапановай сесці ўсім разам за адзін стол і абмеркаваць найбольш актуальныя праблемы грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця краіны выступіў на пачатку ліпеня Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. 25 ліпеня ініцыятыву падтрымалі прадстаўнікі сямі вядучых і, што адметна, зусім розных па сваіх праграмных мэтах палітычных партый — Аграрнай, Аб'яднанай грамадзянскай, «Народнай грамады», «Надзеі», ПКБ, БНФ, а таксама Беларускай партыі працы. Зараз у падтрымку «круглага стала» выказваюцца і прафсаюзы. Таму цяпер, па словах прысутных на прэс-канферэнцыі членаў аргкамітэта, чарга за прадстаўнікамі ўлады — у першую чаргу выканаўчай. Асабліва аргкамітэт спадзяецца на ўдзел у дыскусіі Прэзідэнта, якому днямі было накіравана спецыяльнае запрашэнне.

Канкрэтная дата правядзення «круглага стала» пакуль не вызначана. Але з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што ён адбудзецца ўжо ў жніўні — да пачатку чарговай сесіі Вярхоўнага Савета.

**Сяргей ГРЫБ.**

*СЁННЯ*

### МЕСЯЦ

Поўня
30 ліпеня.

### ІМЯНІНЫ

Пр. Сімяона, Іаана, Ануфрыя, Анісія
К. Нікадзіма, Лідзіі

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.25 | 21.05 | 15.40 |
| Віцебск – | 5.09 | 21.01 | 15.52 |
| Магілёў – | 5.14 | 20.54 | 15.40 |
| Гомель – | 5.19 | 20.44 | 15.25 |
| Гродна – | 5.43 | 21.18 | 15.35 |
| Брэст – | 5.48 | 21.14 | 15.26 |

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Віцебску — 20—22, Брэсце — 22—24, Магілёве — 23—25, Гомелі — 24—26 градусаў.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, па паўднёва-ўсходняй палавіне рэспублікі дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ўначы — 8—13, па паўднёваму ўсходу — 14—17, удзень — 19—24 градусы цяпла.

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...НАВЕДАЦЬ АТЭЛЬЕ ІНДПАШЫВУ

НАВАТ калі б мы, як нашы старажытныя продкі, насілі толькі набедраныя павязкі ды хітоны, час ад часу нам усё ж такі прыходзілася б іх мяняць. Па-першае, каб не адставаць ад моды, па-другое, каб хадзіць у якой-ніякой вопратцы, а не ў лахманах. Не ведаю, як задавальнялі свае патрэбы старажытныя модніцы. Ад імя ж сучасных прадстаўніц чароўнай паловы з сярэднім дастаткам заяўляю: апрануцца ў адпаведнасці са сваім густам у нашых магазінах практычна немагчыма. Таму ў большасці сваёй беларускія жанчыны апрануты «з базара» — турэцка-кітайскі варыянт, або ў шэрыя як па расфарбоўцы, так і па фасонах сукенкі і спадніцы. Тыя ж, хто выглядае не як усе, апранаюцца за вялікія грошы ў фірменных магазінах ці з'яўляюцца пастаяннымі кліентамі атэлье пашыву. Хоць адносіны з прадстаўнікамі гэтай сферы паслуг вельмі часта не складваюцца, гэта адзіная магчымасць падкрэсліць сваю індывідуальнасць.

У колькі ж яна абыходзіцца? У швейным атэлье першага разраду просценькую летнюю сукенку з маленькім каўняром і без рукавоў пашыюць за 59 тысяч 400 рублёў. Усе астатнія дэталі — ускладняльныя, і цана пашыву расце прапарцыянальна іх колькасці. Жадаеце гэтую ж сукенку з рукавамі пашыць? Дадайце яшчэ 11 тысяч. Адразную па таліі? Рыхтуйце яшчэ 10. Рушы, какеткі, клёшная спадніца — усё павялічвае канчатковую суму. У выніку пашыў сукенкі абыдзецца ў 90—150 тысяч рублёў.

З блузкамі, кашулямі — тое ж самае. Калі без кішэняў, клапанаў і пагонаў, то спатрэбіцца ўсяго 43 з паловай тысячы. Але ж каму такая кашуля патрэбна? З ускладняльнымі элементамі яна пацягне напалову больш — ад 60 да 100 тысяч рублёў. Прамая шарсцяная спадніца на падкладцы каштуе 61 тысячу 500 рублёў, такая ж без падкладкі і са шліцай — 46 тысяч. Шаўковую шырокую спадніччку вам сшыюць за 39 тысяч 600 рублёў, а вось калі пажадаеце зрабіць яе доўгай, то цана ўзрасце на 20 працэнтаў. Пашыў шортаў (і жаночых, і мужчынскіх) каштуе да 80 тысяч, пінжакоў — 230. Калі дадаць яшчэ кошт фурнітуры і прыкладных матэрыялаў, то за пінжак трэба аддаць 300—350 тысяч рублёў. Варта адзначыць, што малюнак тканіны (клетка, палоска) таксама з'яўляецца ўскладняльным элементам, а таму і дадаткова аплачваемым. Штаны шыюць за 100—120 тысяч рублёў, дэмісезоннае паліто — за 400—450, зімовае — за 450—500. З такой жа сумай трэба расстацца, калі заказваеце мужчынскі касцюм.

Лёгкае адзенне будзе гатова праз два-тры тыдні, верхняе вы забераце праз месяц.

А лепш за ўсё шыць у знаёмага майстра. Па-першае, паміж сабой заўсёды прасцей разабрацца, калі штосьці не так; па-другое, тэрміны з'яўлення новай вопраткі будуць куды карацейшыя; па-трэцяе, майстрыхі, што шыюць дома, клапоцяцца аб сваім аўтарытэце, а таму выконваюць заказ якасна.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Ясная мова лічбаў

У далёкім мінулым людзі надавалі вялікае значэнне лічбам. Часта розныя іх спалучэнні ва ўяўленнях тагачаснага чалавека набывалі магічнае значэнне. Але — магія магіяй, а для аналітыкаў і прагназістаў лічбы з'яўляюцца важнейшым матэрыялам для работы. Ды і наогул, хто валодае сапраўднымі лічбамі, той рэальна валодае сітуацыяй у эканоміцы і палітыцы.

Да 1990 года Брэсцкая вобласць займала ў рэспубліцы вядучае месца па вытворчасці малака і мяса. Паглядзім, у якім стане знаходзяцца калгасы і саўгасы Брэстчыны цяпер.

У вобласці 360 гаспадарак, якія займаюцца жывёлагадоўляй. Сюды ўваходзяць не толькі калгасы і саўгасы, але і буйныя комплексы.

З усіх гэтых гаспадарак толькі саўгас «Бродніцкі» Іванаўскага раёна не знізіў валавага надою малака ў параўнанні з 1990 годам. У 50 калгасах і саўгасах ён упаў да 15—32 працэнтаў ад тагачаснага, а па вобласці надоі зменшыліся на 50 працэнтаў.

Але і адносна мінулага года спад на 7 працэнтаў, хаця тут карціна не такая і змрочная, шэраг гаспадарак нават павялічылі вытворчасць малака, аднак у цэлым мінус.

Цікава, што надоі на адну карову ў 59 гаспадарках знізіліся на 1000—1300 літраў.

Аналагічная сітуацыя і з мясам. Калі зрабіць параўнанне з 1990 годам, то толькі 15 гаспадарак засталіся на ўзроўні ці павялічылі рэалізацыю мяса. У астатніх мінус. І зноў жа па вобласці на 50 працэнтаў.

Штосьці ў нашай гаспадарцы зусім разладзілася. Прырост вагі буйной рагатай жывёлы таксама стаў нейкім сімвалічным — у межах 300 грамаў у суткі па вобласці. А ў 34 калгасах жывёла набірала ад 100 да 200 грамаў. «Рэкардсменам» жа па гэтай частцы з'яўляецца калгас «Ленінскі шлях» Камянецкага раёна: тут бычкі ды цялушкі таўсцеюць за суткі на 27 грамаў.

Калі глянуць і на прыватны статак, то тут таксама не будзе асаблівай радасці. Пагалоўе кароў у гэтым сектары адносна 1995 года зменшылася. Стабільная сітуацыя ў Драгічынскім і Лунінецкім раёнах, а самае большае зніжэнне пагалоўя ў Баранавіцкім — 8 працэнтаў. А вось у суседнім Ляхавіцкім раёне, у калгасе «Кастрычнік», павялічылі свой статак на 163 працэнты, дойных жа кароў — на 155 працэнтаў. Гэта самы высокі паказчык у вобласці.

Зробім заключэнне. Па ўсіх паказчыках жывёлагадоўлі спад як у параўнанні з 1990 годам, так і з мінулым.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ПЕРАМОВЫ З ВАЕНКОМАМ

### або Дыялог пасля прызыву

***З** ЧАСОЎ, відаць, даўнейшых павялося, што два разы на год вельмі прыметнай і падкрэслена паважанай фігурай у раённых гарадках станавіўся ваенны камісар. У такіх гарадках усе ўсіх ведаюць, вітаюцца, перакідваюцца словам-другім. Але бываюць перыяды, калі наступае зорны час якой-небудзь асобы. Уступныя экзамены ў вузы — для загадчыка аддзела адукацыі ці час нарыхтоўкі агародніны — для дырэктара кансервавага завода. Але ў ваенкома бывалі дзве такіх зорныя часіны на год — веснавы і асенні прызывы на вайсковую службу (не будзем тут гаварыць пра нейкія буйныя злоўжыванні ці «блатныя» адтэрміноўкі). Проста пазваніць і даведацца «Ну і дзе там мой пляменнік будзе служыць, куды паехаў?» Няважна, што праз пару дзён сам пляменнік напіша з месца службы. Навіна дарагая ў гэтыя дні.*

*Часы памяняліся, тэрмін службы не той, ды і служба салдацкая, лічы, побач з домам, вельмі клапатлівыя маці могуць хоць кожны тыдзень хатняга харчу перадаць. Але сама сутнасць службы засталася, засталіся ў нашых райцэнтрах і ваенныя камісары. З адным з іх у мяне час ад часу адбываюцца ўзаемацікавыя дыялогі. Прынамсі з майго боку такая цікавасць ёсць. Ды і сама асоба прывабная. Абаяльны і разам з тым рашучы, па-вайсковаму рэзкі. Біяграфія самая што ні на ёсць ваенная. Прадзядуля быў афіцэрам, скончыў Міхайлаўскія артылерыйскія курсы, дзядуля — выпускнік таксама гэтых курсаў, бацька, праўда, ужо ў савецкі час заканчваў Каломенскае артылерыйскае вучылішча, але сфарміравалі гэта вучылішча на базе ўсё тых жа Міхайлаўскіх артылерыйскіх. Зразумела, што і Анатоль Кулакоў паступіў у гэта ж вучылішча, праўда, на факультэт, які толькі што адкрыўся: ён рыхтаваў артылерыстаў для паветрана-дэсантных войскаў. Пасля заканчэння ў 1976-м — служба ў Пскове. Прайшоў усе ступені ад камандзіра артылерыйскага ўзвода да камандзіра дывізіёна. Тры гады ў Афганістане, з узводам разведкі на базе не заседжваўся. Два ордэны і два медалі. Ну а потым ужо ваенком у Шуміліне, цяпер у Паставах. У час апошняга прызыву давялося бачыць, як вядзе ваенком перамовы з бацькамі прызыўнікоў. Найчасцей гучыць: «Я яго гадавала, а вы забіраеце...» На што ваенком цвёрда адказвае: «Забіраю не я, забірае закон, яго грамадзянскі абавязак».*

**— Анатоль Мікалаевіч, ну і як гэты прызыў, якія адметнасці?**

— Тэндэнцыі тыя ж. Каля ста сямідзесяці чалавек па закону падлягалі прызыву на сапраўдную вайсковую службу. Недзе 25 працэнтаў па стану здароўя перададзены ў запас. І гэта тэндэнцыя найбольш трывожная. Ёсць, вядома, і інваліды, людзі сапраўды нездаровыя. Але ў многіх выпадках бачыцца проста сацыяльна-педагагічная запушчанасць. Не, гэта не разумовая адсталасць. Проста жыве малады чалавек сам па сабе ў сваім абмежаваным свеце. З'яўляецца толькі звычка да цяжкай працы ў сельскай гаспадарцы. Не тое што ніякіх заняткаў — ніякіх думак. Такіх юнакоў правяраю вельмі простымі пытаннямі: «Колькі братоў і сясцёр у вашай сям'і?», «Калі дні нараджэння маці і бацькі?»

І адказы, адказы...

Сёлета сярод прызыўнікоў 6 судзімых, іх па патрабаванню Прэзідэнта пакуль што не прызываем. Ды і самі мяркуйце, што такому салдату можна даверыць? Як ён будзе паводзіць сябе ў калектыве вайскоўцаў? І яшчэ адна трывожная тэндэнцыя — сярод прызыўнікоў 75 працэнтаў непрацуючых.

**— Мой вайсковы вопыт абмяжоўваецца двума гадамі тэрміновай салдацкай ды кароткімі курсамі афіцэраў-запаснікоў. Але помніцца, у сямідзесятых, да Афганістана, існавала нейкая наезджаная каляіна. Атрымаў павестку — на роднае прадпрыемства, там выдаюць двухтыднёвую дапамогу, ёсць што маці падаць да святочнага стала. А сталы ж былі сапраўды святочныя. Не жалобныя, прынамсі. Служыць ішлі без асаблівай радасці, але супрацiўлення ці нязгоды не праяўлялі. Цяпер жа і адслужыць юнак, а куды падацца, калі яго з беспрацоўных у армію бралі?**

— Закон аб прыёме былых салдат на ранейшае месца работы на дзяржаўных прадпрыемствах дзейнічае і цяпер. Ды вось з самага прызыву большасці на яго разлічваць няма чаго. Ну а ў Афганістане за доўгія яго гады пабывала больш як 150 чалавек з раёна. Трое ляжаць на вясковых могілках, адзін інвалід.

Што да жадання, то, сапраўды, яно пры прызывах не праяўляецца. А адваротнага хапае. Ёсць параўнанне: паўтара года аддаць арміі альбо за гэты час «падняцца» на гандлі? Але прыходзіць да нас у ваенкамат пасля службы салдат прыпісацца. Помню, што неахвотна ішоў, былі праблемы. «Бач, як ты змяніўся. Не шкадуеш, што служыў?» У большасці выпадкаў адказ — «Не лічу лішнім». Мяняе армія людзей. І найчасцей у лепшы бок, выхоўваецца мужчына. Ды і сама армія стала чысцейшая, гэта адзначае большасць.

**— Але вернемся да прызыву, заўсёды мяне вымушае задумацца гэты самы адбор, ёсць жа ўсялякія акалічнасці, суб'ектыўныя фактары.**

— Упершыню ў прызыўной камісіі з'явілася магчымасць выбару. Так, не ўсе з прызыўнікоў ідуць на службу. Але камісія — у яе, дарэчы, уваходзяць старшыня ці намеснік старшыні райвыканкома, ваенком, прадстаўнік РАУС і прадстаўнік медыцынскай службы, кіруецца не адвольнымі ўяўленнямі аб выкарыстанні на службе таго ці іншага юнака. Загадам міністра абароны вызначаны пяць ступеняў абмежаванняў па стану здароўя. І, напрыклад, у паветрана-дэсантныя войскі могуць ісці служыць толькі юнакі, у якіх першая і другая ступень.

**— Значыць, справа даводзіцца ледзь не да аўтаматызму, каб менш было памылак. Ну, а як з палітычнымі поглядамі?**

— Ні прыналежнасць да якой-небудзь канфесіі, ні палітычныя погляды юнака прызыўную камісію не цікавяць. Іншая справа, што, стаўшы салдатам, юнак становіцца як бы ў нейтральнае становішча. Армія ў нас па-за палітыкай. І Канстытуцыя там вышэй за ўсё. Аднак камісія можа і зусім здаровага чалавека не адправіць у пагранічныя войскі, напрыклад, калі ў выніку дапрызыўнай работы сабраны звесткі аб частых наведваннях юнаком медвыцвярэзніка, аб яго адміністрацыйных пакараннях.

**— Малады мужчына мае дваіх дзяцей, ён па закону не прызываецца на службу, адтэрміноўка. Але гэты ж закон гаворыць, што права на адтэрміноўку цягнецца да 27 гадоў. Нібыта закон чакае: а раптам у сям'і што памяняецца.**

— Ёсць такое палажэнне, але ёсць і шматлікія іншыя льготы па сямейнаму стану, для тых, хто вучыцца. У 1993-м уведзена палажэнне, што з сям'і, дзе нехта з ваенаслужачых загінуў, больш ніхто не прызываецца, вызваляюцца ад службы дэпутаты на тэрмін сваіх паўнамоцтваў, вызваляецца юнак, які па нейкіх прычынах застаўся без бацькоў, а сам жыве ў вёсцы і мае гаспадарку.

**— Цяпер неяк не прынята гаварыць аб прэстыжы вайсковай службы, аб прафесіі афіцэра як жаданай. Ведаю, што вы тут маеце вельмі ясную пазіцыю.**

— Я прывяду прыклад па Паставах. У свой час гэты райцэнтр лічыўся элітным. І з-за таго, што тут стаяў вялікі гарнізон, жыло шмат афіцэрскіх сем'яў. Як бы там ні было, а афіцэры вызначаюцца сярод райцэнтраўскага насельніцтва. І інтэлект афіцэра на агульным узроўні вышэйшы. Як правіла, і жонкі ў афіцэраў былі адукаваныя. Гэты інтэлектуальны асяродак прыцягваў насельніцтва невялікага гарадка, падцягваў яго. Штогод ваенкамат адпраўляў кандыдатамі ў ваенныя і суворàўскія вучылішчы да 70 юнакоў. І гэта не толькі дзеці вайскоўцаў. Сёлета накіравана каля трыццаці чалавек. У той жа час у Глыбокім — 9, Шуміліне — 3. А цяпер, у сувязі з вывадам і расфарміраваннем практычна ўсіх часцей, адбываецца інтэлектуальны адток. Горад шарэе. І неўзабаве, я думаю, ператворыцца ў звычайны райцэнтр. Я ганаруся тым, што вайсковец, што сумленна прайшоў сваю дарогу. І веру ў будучыню нашай беларускай арміі, яе высокія прафесіяналізм і гонар.

**Гутарыў Алесь КАСЦЕНЬ.**

ГЛЫБІН...

ПРОСІМ ДАПАМ...

## Чаму ў нас... пакуль на па...

*Мы, былыя жыхары в. Вугль... і в. Баршчоўка Хойніцкага раёна... з-за агульнай бяды, былі перас... скурні, што знаходзіцца на Жло... тай вёсцы жывуць 22 такія сям'і, ... маладыя мнагадзетныя, а такс... і састарэлыя.*

*Пасля перасялення ў нашы... падвесці газавае ацяпленне. А... яго правялі ў новыя дамы, што... цоваму калгасу, а пра нас чаму...*

*І вось ужо два гады мы, лю... пакрыўдзіў лёс, спрабуем знайс... заключаецца ў тым, чаму мы ... на паперы. Неаднаразова звяр... інстанцыі, пісалі Прэзідэнту А. ... пісьмы вярталіся мясцовым ула... шы праблемы глядзяць праз па...*

*Просім: дапамажыце знайс... тым зачараваным коле і аблег... існаванне ў цяжкі, складаны ча...*

**З павагай вашы пастаянны... Пётр ДРАВІЛА, пенсіянер, ... пенсіянерка, Пётр СТАРА... Мікалай САМОЙЛЕНКА, настаўні... маці мнагадзе... (Усяго пад пісьмом значацц...**

*АД РЭДАКЦЫІ*

Да гэтай скаргі была прыкла... паштоўка ад 9 лістапада 1995 г... зана: «... Ваша пісьмо, якое па... ністрацыю Прэзідэнта Рэспублі... кіравана на разгляд Жлобінска... ма з просьбай паведаміць Вам... ма. — **Рэд.**) аб выніках.

З таго часу мінула амаль... Што за гэты час зроблена? ... гэта пытанне, мы звязаліся ... галоўным інжынерам упраўлен... будаўніцтва Жлобінскага райвы... шанковым.

Сапраўды, жыхарам вёскі Пра... абяцана, што ў іх дамы правядуц... ленне, — адказаў Уладзімір Тр... гэтай мэтай тут тры гады вяло... выкананы значны аб'ём работ, ... ву да канчатковага завяршэння, ... лося. І ўсё з-за таго, што нам... шай, якія павінны выдзяляцца п... скі фонд. У раённым жа бюджэ... боты сродкаў няма.

Праўда, нам паабяцалі, што ... дзе на падключэнне газавага ... Праскурні грошы абавязкова б... ны.

Як растлумачыў далей У. Ле... вішча з ацяпленнем жылля не т... нае, як перасяленцы звычайна ... пісьмах і скаргах. У іх тыпавых ... лены катлы на цвёрдым паліве... няма: у раёне ёсць свой торф... вод, і сельсаветы выпісваюць у... яго брыкет. Для прыгатавання ... ны газавыя пліты, якія забяспе... ным газам. Акрамя таго, у дама... ныя цагляныя печкі.

## КРЭВА







Пра сённяшні дзень старажытнай вёскі расказваць значна лягчэй. Калі ў XVIII стагоддзі Крэва мела Магдэбургскае права, то цяперашні час можна вызначыць проста: жывём —і дзякуй Богу. Сапраўды, вядомыя за сотні вёрст майстры ўступілі месца вяскоўцам са звычайнымі сціплымі прафесіямі, віруючы некалі экспарт-імпарт змяніўся на продаж мясцовых агуркоў, прадуктаў авечкагадоўлі...

Што і казаць, нібы кропелька крынічнай вады, адлюстравала гэтая зямля ўсе складанасці сваёй матулі-Беларусі. Памірае вяскоўцаў больш, чым нараджаецца. Калі спаўняецца юнаку ці дзяўчыне шаснаццаць гадоў — атрымліваюць яны не пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, а звычайную казённую паперку з фо...

такарт...
Але...
спыня...
Цягну...
зямлі...
некал...

...СІМ ДАПАМОГІ

## ...у ў нас газ ... на паперы?

*...ыхары в. Вуглы Нараўлянскага ...ойніцкага раёнаў, у 1986 годзе ...ды, былі перасялены ў в. Пра...дзіцца на Жлобіншчыне. У гэ... 22 такія сям'і, сярод якіх ёсць ...ветныя, а таксама пенсіянеры*

*...лення ў нашы дамы абяцалі ... ацяпленне. Але ў 1994 годзе ...ыя дамы, што належаць мяс...а пра нас чамусьці забыліся. ...а гады мы, людзі, якіх моцна ...прабуем знайсці праўду. А яна ...ым, чаму мы маем газ толькі ...наразова звярталіся ў розныя ...Прэзідэнту А. Лукашэнку, але ...мясцовым уладам, якія на на...ядзяць праз пальцы.*

*...мажыце знайсці праўду ў гэ...м коле і аблегчыць нам сваё ...і, складаны час.*

**...ы пастаянныя чытачы: ...ІЛА, пенсіянер, Соф'я ДРАВІЛА, ...ка, Пётр СТАРАВОЙТ, калгаснік, ...ЕНКА, настаўнік, Вольга РОПАТ, ...маці мнагадзетнай сям'і і інш. ...сьмом значацца 22 прозвішчы).**

***...цыі***

...гі была прыкладзена ўрадавая ...стапада 1995 года, у якой ска...ісьмо, якое паступіла ў Адмі...дэнта Рэспублікі Беларусь, на...ляд Жлобінскага райвыканко...аведаміць Вам (аўтарам пісь...ыніках.

...мінула амаль сем месяцаў. ...с зроблена? Каб высветліць ...ы звязаліся па тэлефоне з ...рам упраўлення капітальнага ...бінскага райвыканкома У. Ле...

...карам вёскі Праскурні было па...дамы правядуць газавае ацяп...ў Уладзімір Трафімавіч. — З ...тры гады вялося будаўніцтва, ... аб'ём работ, а давесці спра...а завяршэння, на жаль, не ўда...таго, што нам не даюць гро... выдзяляцца праз чарнобыль...ным жа бюджэце на гэтыя ра...ма.

...аабяцалі, што ў наступным го...онне газавага ацяплення ў в. ... абавязкова будуць выдзеле...

...ыў далей У. Лешанкоў, стано...ем жылля не такое безвыход...нцы звычайна падаюць у сваіх ... У іх тыпавых дамах устаноў...вёрдым паліве. З ім праблем ...сць свой торфабрыкетны за... выпісваюць усім жадаючым з ...прыгатавання ежы ўстаноўле..., якія забяспечваюцца балон...ия таго, у дамах ёсць і звычай...нкі.

СІТУАЦЫЯ

# МІНА ДЛЯ ЖОНКІ І СЫНА

**-Г**ЭЙ, МУЖЫК, ПАЧАКАЙ, — да Анатоля Ігнатавіча, пахістваючыся, наблiжаўся такога ж узросту, як і ён (звыш пяцідзесяці гадоў) мужчына. — Ёсць справа.

— Якая? — Дзейчукоў спыніўся, таксама пахістваючыся і моцна заціснуўшы ў руцэ бутэльку віна, якую толькі што купіў у магазіне: можа той меціць у напарнікі, каб разам выпіць?

А той, азірнуўшыся, завёў яго за ларок і прапанаваў:

— Давай у бартэр згуляем. Ты мне бутэльку віна, а я табе — міну... Сапраўдную. Проціпяхотную. Націскнога дзеяння...

Мужыкі адышлі ў бязлюднае месца, за дэкаратыўнае кустоўе, селі на траўку, і незнаёмец выцягнуў з сумкі круглы, нібы блін, прадмет. Дзейчукоў спытаў, ці можа яна бабахнуць, калі на яе не стане чалавек.

— А як жа! — адразу павесялеў мужык, не зводзячы позірку з бутэлькі, якую ўжо лічыў сваёй, бо напарнік яўна зацікавіўся ягонай штучкай. — Вось гэты бікфордаў шнур трэба прысабачыць да ўзрывальніка і міны, падпаліць яго, а самому даць драпака ў бяспечнае месца. Міна ў мэтлахі разнясе ўсё навокал.

Мужыкі ўдарылі па руках і разышліся. З радасці Анатоль Ігнатавіч набыў новую бутэльку віна і паклыпаў дадому. Цяпер ён узброены чым трэба, цяпер ён пакажа ім, дзе ракі зімуюць. І жонцы, з яе паганым языком-лязом, і сынку, які абараняе яе.

Дома Дзейчукоў надзейна схаваў міну ў патаемным месцы і раз-пораз заглядваў туды, кантраляваў, каб яна нікуды не знікла. Яго дзеянні насілі мэтанакіраваны характар: калі зноў у сям'і пачнуць «рваць» яго нервы, «давіць» на псіхіку, ён тады прыменіць міну як самы важкі аргумент супраць крыўдзіцеляў-ворагаў, якімі, безумоўна, з'яўляюцца жонка Ганна Фёдараўна і сын Аляксандр. Не хочуць разумець яны яго. Папракаюць, што ён вельмі ўжо ўлёгся ў спіртное, прапівае ўсю пенсію, давёў маці да сардэчнага захворвання. А што ён можа зрабіць, калі работа ў яго заўсёды была халтурная — слесар, шафёр, сантэхнік? За «левыя» прыработкі людзі шчодра налівалі, а ён не адмаўляўся, выпіваў. Але ж алкаголікам не стаў. Не, не хочуць разумець яго ў сям'і, не жадаюць.

Так лічыў Анатоль Ігнатавіч. У Ганны ж Фёдараўны і Аляксандра аргументы былі процілеглага характару. Яны хацелі роднага чалавека выцягнуць з багны п'янства, каб аблегчыць і без таго цяжкае жыццё і яму, і сабе. Яшчэ ў дзяцінстве сын зведаў на сабе пякучы боль бацькавай папругі, бо падтрымліваў просьбы і патрабаванні маці не п'янстваваць, а калі падрос, стаў яе сапраўдным заступнікам.

— Я — Тарас Бульба, — у п'яным ачмурэнні пагражаў бацька сыну, — я цябе нарадзіў, я цябе і заб'ю.

Калі Аляксандр вярнуўся з савецка-афганскай граніцы, дзе служыў у арміі, бацьку пазнаў з цяжкасцю: настолькі той спіўся і састарэў. Адзінае, што засталося нязменным, дык гэта ваяўнічы дух супраць сям'і, калі там рабілі яму заўвагі. Аднойчы бацька кінуўся з нажом на Ганну Фёдараўну, і ў сям'і вырашылі адправіць яго ў лячэбна-працоўны прафілакторый. Шкада, што не зрабілі гэтага, бо паддаліся на яго слёзныя ўгаворы. Думалі, можа выправіцца, зразумее нарэшце, перад якой безданню стаіць. Не, нічога не зразумеў. На жонку лаяўся самымі бруднымі словамі, пагражаў ёй, і яна глытала плойму таблетак, а Аляксандра абзываў недабітым афганцам, паганым ментам, лягавым, бо той пайшоў працаваць у міліцыю.

І вось наступіў дзень, калі Анатоль Ігнатавіч задумаў здзейсніць намечанае. Перад чарговым запоем ён аддаў даўгі тым, у каго пазычаў грошы на выпіўку, апаражніў бутэльку віна і прычапіўся да жонкі: нясмачныя піражкі спякла, еш сама. Калі ж тая пачала даказваць адваротнае, трэснуў яе галавой аб сценку і накіраваўся ў залу. Там на ўвесь, да ўпору, гук уключыў тэлевізар і паваліўся на ложак. Ганна Фёдараўна зрабіла гук слабейшым, спаслаўшыся на тое, што ў яе нібы «развальваецца» галава. Анатоль Ігнатавіч палічыў гэта грубым умяшальніцтвам у яго асабісты адпачынак і злосна раўкнуў:

— Адыдзі, а то зараз адным ударам прыляплю да тэлевізара.

Калі жонка рэціравалася, ён адправіўся ў магазін, каб на належную ноту ўзняць свой сапсаваны настрой, і «цёпленькі», з бутэлькай гарэлкі і віна вярнуўся дадому. Аляксандр пасля работы глядзеў тэлевізар, і Анатоль Ігнатавіч прапанаваў яму «раздавіць» разам адну бутэлечку з той мэтай, каб аднавіць нервовыя клеткі, якія сваімі паводзінамі вывела з баявога строю Ганна Фёдараўна. Сын адмовіўся, сказаўшы, што бацька і без гэтага лыка не вяжа.

— Тады я зраблю вам «гух!», знішчу ўсіх, — п'яна прамармытаў Анатоль Ігнатавіч і выйшаў з пакоя.

Аляксандр не звярнуў на пагрозу ўвагі, бо прывык, што бацька ў п'яным стане нёс яшчэ і не такую бязглуздзіцу. Ганна ж Фёдараўна, знаходзячыся ў ванне, дзе прымала таблеткі, пачула на кухні нейкі трэск і крыкнула Аляксандру паглядзець, што там. Той выйшаў і жахнуўся: у руках у бацькі гарэў бікфордаў шнур з узрывальнікам, які ён спрабаваў уставіць у міну, што ляжала на стале. Аляксандр імгненна падскочыў да яго, вырваў шнур з узрывальнікам і шпурнуў яго ў фортачку. За акном гулка вухнула.

Анатоль Ігнатавіч тым часам злаўчыўся, і з крыкам «паміраць, дык з музыкай!» схапіў міну, паклаў яе на падлогу і занёс нагу, каб стаць на яе. Ды не паспеў: сын падштурхнуў яго далей. Расстроены няўдачай, бацька схапіў са стала кухонны нож і кінуўся на Аляксандра. Толькі пасля трэцяга замаху той прымяніў прыём самба.

А Ганна Фёдараўна тым часам выклікала міліцыю. Прыйшлі два супрацоўнікі, каб навесці парадак, і запрасілі Анатоля Ігнатавіча ў аддзел. Той спрабаваў для сваёй абароны паўтарыць надзейны спосаб уратавання, што прыдумалі парыжскія камунары, — забарыкадзіравацца. Не ўдалося: міліцыянеры апярэдзілі яго. Тады ён выбег на балкон, разбіў аб веласіпед бутэльку і параніў аднаго міліцыянера ў руку.

«Паразумнеў» Анатоль Ігнатавіч толькі ў следчым ізалятары, а потым і ў судзе. Міну, сказаў, ён набыў, каб глушыць рыбу, а з жонкай і сынам жыў ціха-мірна. Тыя ж на гэты раз, відаць, сур'ёзна ўзважыўшы ягоныя намеры, расказалі аб усім чэсна, як ім ні балюча было адпраўляць роднага, але абрыдлага чалавека ў турму. Гомельскі абласны суд, а дакладней калегія па крымінальных справах пад старшынствам Аляксандра Дзегцярова вынесла наступны прыгавор: за ўчыненыя злачынныя дзеянні Анатоль Ігнатавіч Дзейчукоў пазбаўлены волі на пяць гадоў з утрыманнем у калоніі ўзмоцненага рыжэму, дзе адначасова будзе праходзіць прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

Гэтая мера для яго, пэўна, суровая. Але тыя, хто прысутнічаў на судзе, не маглі не заўважыць, што ён застаўся задаволеным ёю (і не пачаў пасля пісаць касацыйную скаргу ў вышэйстаячую судовую інстанцыю). І ў думках ён шчыра дзякаваў... таму мужыку, з якім каля магазіна згуляў у бартэр і які ўсё ж надзьмуў яго, абдурыў. На шчасце. Бо міна (і гэта выявілася толькі на судзе) была не баявая, а вучэбна-імітацыйная, прызначаная для навучання асабовага саставу вайскоўцаў, і пры выбуху яе чалавек мог бы быць толькі паранены, калі б знаходзіўся побач з ёй. У той час, як баявая міна пры выбуху ў памяшканні разнесла б не адну кватэру і загубіла б шмат людзей.

Гэтага не адбылося толькі па яго вялікасці Выпадку, па збегу акалічнасцей.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*г. Гомель.*

РАБОЧЫ КАНТРОЛЬ

## «Сарамлівыя» зладзеі

**Сюжэт, які прывяду ніжэй, новым не назавеш. Успомнім хаця б «Дванаццаць крэслаў» Ільфа і Пятрова. Памятаеце, там ёсць такі эпізод. Пад выглядам пажарнага інспектара Астап Бендэр пранік у інтэрнат для састарэлых і знайшоў загадчыка разам са шматлікімі сваякамі за трапезай. «Сарамлівыя» зладзеі — яны кралі і пры гэтым саромеліся — ласаваліся далікатэсамі, недададзенымі да стала кантынгента.**

Калі б існавала машына часу і Астап трапіў у нашы дні хоць у адзін інтэрнат Магілёўшчыны, ён абавязова ўбачыў бы той жа малюнак.

Надзея Гарохава, якая ўзначальвае рабочы кантроль прафсаюзаў вобласці, пазнаёміла журналістаў з даведкай па выніках праверкі дамоў-інтэрнатаў на прадмет арганізацыі харчавання інвалідаў, хворых і проста састарэлых людзей. Не ведаю, якім чынам усе гэтыя нямоглыя трымаліся на свеце, але тое, што хранічна недаядалі, — факт. Прычым на стол да іх не трапляла самае смачнае. Напрыклад, селядцы. Персанал Бялыніцкага дома-інтэрната з'еў іх да апошняга хваста. У вінегрэце не аказалася морквы, у бульбяным пюрэ — масла...

Персанал Каменскага дома-інтэрната гатуе сабе персанальную ежу. Старым шніцэлі, сабе — адбіўныя.

У Быхаўскім доме-інтэрнаце абеды вараць з «сякеры». І ў першай, і ў другой стравах мяса было толькі палова нормы...

Можна, вядома, закончыць гэтыя радкі мараллю. Маўляў, красці нядобра, пакарае калі не начальства, дык Бог. Але ж крадуць зараз усе, у каго ёсць магчымасці. Успомніце: каб нам жыць і не прапасці, трэба... Ля вады хадзіць ды не напіцца...

Гэтыя цынічныя афарызмы як нельга лепш адлюстроўваюць прычыны масавага «нясунства» ў дамах-інтэрнатах. Бо кантынгент там, за рэдкім выключэннем, непатрабавальны і безгалосны. Ну які скаржнік з псіхічна хворага? Або з непісьменнай бабулі, якая ледзьве рухаецца? Звычайны кавалак хлеба ўспрымаецца ў такіх дамах як міласціна, за якую належыць дзякаваць.

Дык як ля такой «вады» не «напіцца»?

Другая і, думаю, галоўная прычына — у дрэнным матэрыяльным становішчы, у якім апынуўся сам персанал. Ведаеце, колькі зарабляе сацыяльны работнік? Аж 260 тысяч рублёў у месяц. На тры месячныя білеты на праезд у гарадскім транспарце. А жыць за што? Прападаць? Не, лепш красці.

«Несуноў» не апраўдваю. Грэх крыўдзіць пакрыўджаных Богам. І ўпраўленне сацыяльнай абароны насельніцтва, куды даведка рабочых кантралёраў накіравана для рэагавання, прыме, вядома, меры. Камусьці аб'явяць вымову, кагосьці пазбавяць прэміяльных. Вось толькі ці зніме гэта праблему ў цэлым — пытанне.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**







...вала ...вяс-...дзяў-...ама-...фо-

такарткай і пячаткай: маўляў, бланкаў пашпартоў няма...

Але прыйдзеш да старога замка — і бачыш, і верыш: жыццё не спыняецца. Кружыць над замкам бусел, адрадзіўшы тут свой дом. Цягнуцца да сонца з-пад муроў травінкі. Гаспадараць на гэтай зямлі яе новыя валадары — нашчадкі тых ваяроў і прыгажунь, што некалі першымі пасяліліся на крэўскай зямлі.

***НА ЗДЫМКАХ:** вёска з вышыні птушынага палёту; у краязнаўчым музеі, які створаны вучнямі і настаўнікамі мясцовай школы; адзін з самых аўтарытэтных сярод вяскоўцаў — святар праваслаўнай царквы айцец ВАЛЯНЦІН; салодкая трава расце пад сценамі старажытнага замка; жыхарка Крэва Аляксандра Піліпаўна АЖЭЎСКАЯ ўжо сустрэла сваё стагоддзе; памятны крыж на месцы, дзе ішлі баі першай сусветнай вайны.*

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**Фота аўтара.**

ПОГЛЯД

# Леанід СЕЧКА:
# «Наспела неабходнасць стварэння кааліцыйнага ўрада»

**У мінулым месяцы яшчэ адзін з супрацоўнікаў Адміністрацыі Прэзідэнта пакінуў каманду Аляксандра Лукашэнкі: заяву аб звальненні напісаў начальнік Службы кантролю Прэзідэнта па Гомельскай вобласці Леанід Сечка. Як вядома, нават пасля абрання ў парламент ён заставаўся працаваць на гэтай пасадзе, таму апошнія падзеі сталі для многіх нечаканымі. З нагоды гэтай адстаўкі мы задалі Леаніду Ніканоравічу некалькі пытанняў. Але тэма гутаркі аказалася больш шырокай. У прыватнасці, сп. Сечка выказаў некалькі прапаноў па рэфарміраванню ўрада. Вядома, яны вельмі небясспрэчныя, але дэпутат цвёрда трымаецца менавіта такой пазіцыі.**



**— НАКОЛЬКІ ЗРАЗУМЕЛА, ваша адстаўка звязана не толькі са структурнымі зменамі ў сацыял-дэмакратычным руху ў Беларусі?**

— Так, фармальнай падставай стала выбранне мяне сустаршынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, паколькі я ўпэўнены, што сацыял-дэмакратыя — гэта тая сіла, якая здольна вывесці Беларусь дэмакратычным шляхам да дабрабыту ўсіх яе грамадзян. Тым не менш, пасаду начальніка Службы кантролю Прэзідэнта я пакінуў, папярэдне ўсё добра абдумаўшы. Я прыйшоў да высновы, што працаваць у структурах улады, якія не выконваюць нават той праграмы, якая была прадэкларавана народу будучым прэзідэнтам — гэта вельмі складана з маральнага боку. Я проста не хачу падзяляць адказнасць за палітыку, якая вядзе ў тупік.

**— Пасля таго, як вы перайшлі канчаткова да спраў партыйных, вы бачыце хоць нейкія магчымасці супрацоўніцтва з сённяшнімі ўладамі?**

— Наогул я лічу, што настаў час, калі трэба перайсці да больш цывілізаваных формаў агульнага ажыццяўлення ўлады ў краіне, паколькі раней супрацоўніцтва асобных палітычных дзеячаў з выканаўчай уладай будавалася на індывідуальнай аснове. Зараз у вышэйшых эшалонах улады можна сустрэць прадстаўнікоў розных партый. Амаль усе яны заяўляюць пра сваю апазіцыйнасць да Прэзідэнта, але на палітычныя і маральныя пытанні ўвагу мала хто звяртае. Напрыклад, ЦК ПКБ адмаўляе ў падтрымцы А. Лукашэнку ў той час, калі член ЦК Сяргей Посахаў застаецца памочнікам Прэзідэнта, дапамагае яму кіраваць краінай. Мне яшчэ больш незразумелае становішча міністра працы Аляксандра Саснова, паколькі АГП, членам якой ён з'яўляецца, першапачаткова была ў апазіцыі. У той жа час віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун і міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў — прадстаўнікі Аграрнай партыі. Таму лічу, што ў рэшце рэшт партыям і Прэзідэнту трэба пераходзіць на дагаворныя і кааліцыйныя ўмовы.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— У дэмакратычных дзяржавах члены партый удзельнічаюць ў дзяржаўных структурах, па-першае, са згоды сваіх партый, па-другое, пры захаванні пэўных правілаў «палітычнай гульні», дзе прадугледжваецца мера адказнасці за прынятыя рашэнні, а таксама крытычная рыса, пасля якой удзел палітычных партый ва ўрадавай кааліцыі немагчымы. Калі б гэтыя правілы захоўваліся, то сучасная выканаўчая ўлада магла б быць кааліцыйнай. Але ж гэта не так. Нармалізаваць становішча спраў, юрыдычна і палітычна аформіць удзел партый у ажыццяўленні выканаўчай улады можна, калі да гэтага будзе добрая воля як з боку Прэзідэнта, так і з боку палітычных партый, якія будуць гатовы ўзяць на сябе адказнасць за лёс краіны. Пры гэтым, каб не парушаць баланс сіл у парламенце, лічу, дэпутаты павінны ўстрымацца ад удзелу ў кааліцыйным урадзе. Яны павінны адпрацоўваць мандат даверу сваіх выбаршчыкаў у парламенце.

**— Вы ўпэўнены, што размова пра кааліцыйны ўрад зараз актуальная?**

— Мне здаецца, што менавіта зараз да глыбокага эканамічнага крызісу ў нашай краіне прыбавіўся і крызіс улады. Ён непазбежна выцякае з вынікаў гаспадарання ў дзяржаве. У грамадстве даўно маюцца сур'ёзныя рознагалоссі адносна сацыяльна-эканамічнай палітыкі Прэзідэнта. Сёння гэтыя рознагалоссі праяўляюцца і ў вышэйшых эшалонах улады. Такім чынам, краіна аб'ектыўна падведзена да неабходнасці змены ўрада, і мы лічым, што новы ўрад абавязкова павінен быць кааліцыйным.

**— Але ж пра кааліцыйны ўрад мы ведаем хіба што з газет. У Беларусі не існуе механізма яго фарміравання.**

— Мы жывём у час вялікіх перамен, мы навучыліся многаму з таго, чаго раней не ведалі і нават не падазравалі. Таму нам прыйдзецца яшчэ шмат чаму навучыцца. Прычым, асабліва хачу падкрэсліць, што стварэнне кааліцыйнага ўрада трэба праводзіць у рамках дзеючай Канстытуцыі. Прэзідэнт мае дастаткова паўнамоцтваў, каб стварыць такі ўрад, а разам з парламентам на яго можна было б ускласці такія паўнамоцтвы, якіх патрабуюць час і сённяшняя сітуацыя. Вядома, у баку не павінны застацца і самі партыі. Напрыклад, свае словы я магу пацвердзіць і дзеяннямі. Сацыял-дэмакратычная фракцыя і СДС гатовы ўзяць на сябе задачы па фарміраванню шырокай парламенцкай кааліцыі і стварэнню кааліцыйнага ўрада. Мы гатовы нават назваць некалькі кандыдатур на пасаду прэм'ер-міністра.

**— Вы не баіцеся, што настолькі неардынарныя і смелыя прапановы будуць няправільна зразуметы як выканаўчай уладай, так і астатнімі партыямі? Апошнія нават могуць абвінаваціць вас, што вы прэтэндуеце на ролю абсалютнага лідэра.**

— Мы зусім не будзем супраць, калі фарміраванне ўрада будзе даручана, напрыклад, Аграрнай партыі ці якой-небудзь іншай вядомай і аўтарытэтнай палітычнай арганізацыі. Але ў любым разе ўсё сказанае будзе мець сэнс толькі ў тым выпадку, калі будуць захаваны наступныя ўмовы. Па-першае, неабходна сфарміраваць агульнанацыянальную праграму выхаду з крызісу шляхам шырокіх кансультацый і перамоў. Прэзідэнт і парламент павінны зацвердзіць гэтую праграму. Па-другое, трэба даць ураду неабходныя паўнамоцтвы для рэалізацыі гэтай праграмы. Трэцяя ўмова — прыняцце па прапанове кааліцыйнага ўрада Прэзідэнтам і парламентам неабходных указаў і законаў. Па-чацвёртае, неабходна ліквідаваць альтэрнатыўныя Кабінету Міністраў упраўленні дзяржаўнымі фінансамі, дзяржаўнай маёмасцю з боку Адміністрацыі Прэзідэнта ці іншых структур, якія не маюць на гэта канстытуцыйных паўнамоцтваў. Па-пятае, трэба забяспечыць безумоўную галоснасць у дзейнасці Прэзідэнта, парламента і ўрада. І, нарэшце, неабходна ўвесці мараторый на змяненні ў Канстытуцыю на час вырашэння пастаўленых перад урадам задач.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# БРОНЗАВЫ ПЕРЫЯД БЕЛАРУСКАГА БАЛЕТА

**Цяжка даюцца крокі да прызнання. Тым больш, калі гэтыя крокі робяць нашы артысты балета на прэстыжных конкурсах за мяжой. Яшчэ нядаўна беларуская балетная школа атрымала сусветнае прызнанне, калі быў адзначаны балет «Страсці».**

**А цяпер рэйтынг нашага балета падтрымалі дзве навучэнкі Беларускага харэаграфічнага каледжа. Ірына Цымбал і Аста Базавічутэ вярнуліся з конкурсу артыстаў балета, што праходзіў у горадзе Варна, з бронзавымі медалямі.**

Ён даўно праходзіць у Балгарыі і лічыцца вельмі складаным сярод іншых балетных конкурсаў: шэсць варыяцый і два сучасныя нумары трэба выканаць на ім (у той час калі на іншых — па 2-3 варыяцыі). Упершыню ў Балгарыі выступілі прадстаўніцы Беларусі. Сёлета на ім спаборнічалі 207 удзельнікаў з 33 краін. Даволі вялікія па колькасці ўдзельнікаў дэлегацыі прадстаўлялі Балгарыю (40 чалавек), Украіну (22), Расію (15), Японію і Францыю (па 10 канкурсантаў). Тым больш прыемна, што абедзве ўдзельніцы ад Беларусі былі адзначаны даволі прадстаўнічым журы. Аста Базавічутэ тры гады вучыцца на Беларусі. А Ірына Цымбал ужо была лаўрэатам міжнародных конкурсаў. Але ў Балгарыі ёй прыйшлося акрамя майстэрства паказаць сілу характару — дзяўчына нядаўна перанесла траўму і паўтара месяца не магла займацца. Дарэчы, серабро з Балгарыі павёз і Андрэй Іваноў, таксама выпускнік беларускай школы, які зараз прадстаўляў Расію.

Нашых дзяўчат псіхалагічна падтрымаў Валянцін Елізар'еў, які быў у саставе міжнароднага журы. Такім чынам, у Балгарыі ўпершыню загучала імя «беларускі балет». І, спадзяёмся, будзе гучаць яшчэ не раз і ў іншых краінах. Таму што будзе працяг: Ірына Цымбал пасля конкурсу атрымала запрашэнне выступіць у Парыжы.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

НАЎЗДАГОН

# Справа БНФ: у Мінюсце чакаюць заключэння пракуратуры

**Нечаканая заява лідэраў БНФ Зянона Пазняка і Сяргея Навумчыка аб намеры атрымаць статус палітэмігрантаў нарадзіла новую хвалю размоў аб тым, што ў хуткім часе дзейнасць узначальваемай імі арганізацыі будзе забаронена. Праліць святло на сітуацыю карэспандэнт «Звязды» папрасіў міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь Валянціна Алегавіча СУКАЛУ.**

***— Наколькі адпавядае рэчаіснасці інфармацыя аб тым, што неўзабаве Мінюст выступіць з ініцыятывай забароны Народнага фронту?***

— Сапраўды, адзіным органам, які мае права ставіць падобныя пытанні, з'яўляецца наша міністэрства. Але канчатковае рашэнне павінен прымаць суд, у дадзеным выпадку — Вярхоўны. Мы ж са свайго боку можам толькі прадаставіць яму адпаведныя дакументы. Падставамі для такога звароту, паводле арт. 29 Закона «Аб грамадскіх аб'яднаннях», па-першае, становяцца канкрэтныя факты дзейнасці таго ці іншага грамадскага аб'яднання, якія сведчаць аб намерах прымусовага звяржэння канстытуцыйнага ладу, аб прапагандзе вайны, расавай альбо нацыянальнай варожасці. Другая падстава для ліквідацыі — гэта паўторнае на працягу года парушэнне ўласнага статута, за якое Міністэрства юстыцыі вынесла афіцыйнае пісьмовае папярэджанне.

Цяпер што датычыцца БНФ. Гэта грамадскае аб'яднанне 30 красавіка і 4 чэрвеня ўжо атрымала два такія папярэджанні, прычым яны кіраўніцтвам Народнага фронту нават не аспрэчваліся. Фармальна ў Міністэрства юстыцыі ёсць падставы, каб ставіць пытанне аб вынасе справы БНФ у Вярхоўны суд. Але, пакуль не скончылася расследаванне ўсіх акалічнасцей парушэнняў грамадскага парадку мінулай вясной, мы гэтага не зробім. Такім чынам, зараз мы чакаем заключэння пракуратуры, і толькі пасля яго Міністэрства юстыцыі дасць юрыдычную ацэнку апошняй дзейнасці БНФ.

***— Калі гэта заключэнне будзе не на карысць Народнага фронту, справа аўтаматычна дойдзе да Вярхоўнага суда?***

— Ліквідацыя грамадскага аб'яднання — гэта даволі сур'ёзнае рашэнне, і яно не можа прымацца адным чалавекам. Усё будзе залежаць ад пазіцыі калегіі Міністэрства юстыцыі, якая павінна разгледзець усе нюансы гэтага пытання.

Між іншым, яшчэ адзін момант: нават калі мы падрыхтуем у Вярхоўны суд адпаведную заяву, то ён можа як задаволіць, так і адхіліць яе.

***— Дарэчы, як з юрыдычнага пункту гледжання вамі ацэньваецца мітынг і шэсце 27 ліпеня? Ці не стане факт выкарыстання падчас іх бела-чырвона-белых сцягоў падставай для вынясення БНФ чарговага, ужо трэцяга папярэджання?***

— Адназначна, мы не можам мірыцца з тым, што падчас амаль усіх масавых акцый апошняга часу актыўна выкарыстоўвалася незарэгістраваная сімволіка. Падобныя даныя ёсць і па 27 ліпеня, але ступень віны ў гэтым непасрэдна БНФ яшчэ высвятляецца, і, калі яна будзе даказанай, рэакцыя Міністэрства юстыцыі будзе адпаведнай. Разам з тым у нас ёсць вялікія прэтэнзіі не толькі да арганізатараў акцыі, але і да Мінгарвыканкома, які фактычна ўхіліўся ад кантролю за падзеямі. І што асабліва абурае — ужо не ўпершыню.

Зрэшты, іншых, апроч сімволікі, пытанняў да арганізатараў на гэты раз не было. Парадку на масавых мітынгах і шэсцях стала болей, і, на маю думку, не апошнюю ролю у гэтым адыгралі тыя пісьмовыя папярэджанні, што былі вынесены намі шэрагу грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку і Беларускаму народнаму фронту.

***— Тым не менш, на ваш погляд, што ўсё ж такі чакае БНФ у будучым?***

— Зноў паўтаруся, што кропку ў справе можна будзе ставіць пасля заключэння пракуратуры. Бо звяртацца ў Вярхоўны суд толькі на падставе ранейшых папярэджанняў, відаць, няма сэнсу.

**Сяргей ГРЫБ.**

# Лідэрам БНФ не доўга засталося чакаць адказу

Як паведамлялася раней, лідэры Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык папрасілі палітычнага прыстанішча ў Злучаных Штатах Амерыкі. Дзярждэпартамент ЗША заявіў, што просьба лідэраў Народнага фронту Беларусі Пазняка і Навумчыка аб прадастаўленні ім палітычнага прыстанішча ўжо трапіла ў Службу іміграцыі і натуралізацыі ЗША і разглядаецца вельмі сур'ёзна. Прадстаўнік Дзярждэпартамента Нікалас Бёрнс мяркуе, што рашэнне па гэтым пытанні будзе прынята даволі хутка. Ён таксама сказаў, што прадстаўнікі амерыканскага знешнепалітычнага ведамства правялі з лідэрамі БНФ гутарку. Прадказаць, якое рашэнне будзе прынята, Бёрнс не ўзяўся.

**Сяргей ПРОТАС.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

- Прыблізна **50 немаўлят у свеце нараджаюцца ва ўмовах галечы** кожную хвіліну.
- **Звыш 120 мільёнаў чалавек** у свеце афіцыйна прызнаны беспрацоўнымі і яшчэ больш заняты няпоўны працоўны дзень.
- За шэсць месяцаў гэтага года **ў міліцыю рэспублікі паступіла 116 ананімных званкоў** аб замініраванні будынкаў, устаноўлены 21 чалавек, якія тэлефанавалі.
- У мінулым годзе з калоній рэспублікі вызваліліся больш за 12 тысяч чалавек, якія адбывалі пакаранне; у гэтым чакаецца, што на волі апынуцца яшчэ каля 14 тысяч чалавек.
- 16 працэнтаў агульнай колькасці бедных у свеце **жывуць у Афрыцы,** большасць з іх у сельскіх раёнах пустыні Сахара.
- У 1960 годзе суадносіны дахода паміж 20 працэнтамі багатых і 20 працэнтамі бедных насельніцтва света складалі 30:1, да 1991 года гэтыя суадносіны павялічыліся да 61:1.
- У гэтым годзе **адмоўнае сальда гандлёвага балансу** больш чым падвоілася ў параўнанні з тым жа перыядам мінулага года.
- За першыя месяцы гэтага года **ў таварнай структуры беларускага экспарту** пераважалі хімічная прадукцыя і мінеральныя ўгнаенні, вялікую ўдзельную вагу складалі машыны, абсталяванне і прыборы, транспартныя сродкі, тэкстыль і тэкстыльныя вырабы.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ...

## Афіцэры, афіцэры, як вам зараз без кватэры?

Не так ужо і шмат засталося катэгорый беларускіх грамадзян, якія маюць права на бясплатнае і пазачарговае жыллё. Пэўныя сумы грошай дзяржава выдзяляе на гэтыя мэты, але дасюль праблема застаецца нявырашанай. Лічыце самі, летась, па даных Міністэрства эканомікі, уведзена 61 тысяча квадратных метраў жылля, што складае ўсяго 10,8 працэнта да плана. У бягучым годзе, каб выканаць адпаведныя пастановы ўрада, трэба для льготных катэгорый пабудаваць каля 646 тысяч квадратных метраў жылля. Аднак у бюджэце Мінфінам прадугледжвалася выдзяленне 690 мільярдаў рублёў замест неабходных 2,5 трыльёна рублёў. А канчаткова з бюджэту выдзелілі ўсяго 280 мільярдаў: на гэтыя грошы магчыма пабудаваць каля 73 тысяч квадратных метраў. Ды і так яшчэ няблага, толькі прафінансавана ў першым паўгоддзі будаўніцтва ў памеры 84,03 мільярда рублёў, ці 30 працэнтаў да гадавога плана.

У сучасны момант існуе праект «Праграмы забеспячэння жыллём удзельнікаў вайны, воінаў-інтэрнацыяналістаў, ваеннаслужачых, звольненых з ваеннай службы ў запас (адстаўку), а таксама членаў іх сем'яў на 1997—2000 гады», у адпаведнасці з якой прадугледжваецца выдзяленне з рэспубліканскага бюджэту на 1997 год 897 мільярдаў рублёў, на 1998 — 783, на 1999 — 878 мільярдаў рублёў капітальных укладанняў у цэнах 1996 года. Будзем спадзявацца, канешне, што адстаўнікі, ветэраны і афганцы не застануцца пакрыўджанымі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## УДАКЛАДНЕННЕ

**У папярэднім нумары «Звязды» ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 262 «Аб дзяржаўнай падтрымцы малога прадпрымальніцтва» па тэхнічных прычынах дапушчаны пропуск часткі тэксту Указа. Пункт 3.3 Указа трэба чытаць у наступнай рэдакцыі:**

3.3. прадугледзець у праекце Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь сістэму льготнага падаткаабкладання суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, якая ўключае:

на працягу першых двух гадоў з дня іх рэгістрацыі зніжэнне падатку на прыбытак юрыдычных асоб — суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, якія ажыццяўляюць вытворчую дзейнасць;

змяншэнне для юрыдычных асоб — суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, якія ствараюць дадатковыя рабочыя месцы, падатку на прыбытак ў залежнасці ад павелічэння колькасці рабочых месцаў;

устанаўленне льготнага падаткаабкладання часткі прыбытку юрыдычнай асобы — суб'екта малога прадпрымальніцтва, накіраванай у якасці добраахвотнага ўзносу ў Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў;

меры па стымуляванню вытворчасці экспартаарыентаванай і імпартазамяшчаючай прадукцыі, а таксама прадукцыі, якая раней не выраблялася ў рэспубліцы;

выплату суб'ектамі малога прадпрымальніцтва падаткаў (акрамя падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў) адзін раз у квартал;

прадастаўленне падатковых ільгот банкам, што забяспечваюць крэдытаванне суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, якія ажыццяўляюць вытворчую дзейнасць;

**Прыносім свае прабачэнні чытачам газеты.**

XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

Atlanta 1996

# МЕДАЛЬНАГА ЗВОНУ ЗНОЎ НЕ ЧУВАЦЬ

Чарговы, трынаццаты дзень Алімпіяды ў Атланце стаў для беларускай каманды пустым: не заваёвана ніводнага медаля. Слабым суцяшэннем стала пятае месца нашага дзесяціборца Эдуарда Хамяляйнена, які, дарэчы, пасля васьмі дысцыплін быў на першым месцы. Застаецца толькі здагадвацца, што здарылася з атлетам у апошніх двух відах.

**ВЫНІКІ ТРЫНАЦЦАТАГА ДНЯ СПАБОРНІЦТВАЎ**
**1 жніўня (разыграна 14 камплектаў узнагарод)**

- **БАДМІНТОН**

**Адзіночны разрад. *Жанчыны***
1. Бан Су-хун (Паўднёвая Карэя)
2. Аўдзіна Мія (Інданезія)
3. Сусі Сусанці (Інданезія)

**Адзіночны разрад. *Мужчыны***
1. Пол-Эрык Хоер-Ларсен (Данія)
2. Дун Цзін (Кітай)
3. Рашыд Сідэк (Малайзія)

**Змешаны парны разрад (мікст)**
1. Гіл Юнг-Ах і Кім Донг-Мун (Паўднёвая Карэя)
2. Ра К'юнг-Мін і Пак Джу-Бонг (Паўднёвая Карэя)
3. Лю Цзяньцзюнь і Сунь Мань (Кітай)

- **ВЕТРАЗЕВЫ СПОРТ**

**Клас «470». *Жанчыны***
1. Тэрэса Сабель і Бекона Вія Дзюфрэснэ (Іспанія)
2. Юміко Шыге і Алісія Кінашыта (Японія)
3. Руслана Таран і Алена Пахольчык (Украіна)

**Клас «470». *Мужчыны***
1. Яўген Браславец і Ігар Матвіенка (Украіна)
2. Джон Мерыкс і Іан Уокер (Вялікабрытанія)
3. Нуно Барэту і Вітор Раша (Партугалія)

- **СТРАЛЬБА З ЛУКА**

**Асабістыя спаборніцтвы. *Мужчыны***
1. Джасцін Х'юіш (ЗША)
2. Магнус Петэрсан (Швецыя)
3. О Кюо-Мун (Паўднёвая Карэя)

- **НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС**

**Адзіночны разрад. *Мужчыны***
1. Лю Галян (Кітай)
2. Ван Тао (Кітай)
3. Йорг Роскопф (Германія)
*5. Уладзімір Самсонаў (Беларусь)*

- **КОННЫ СПОРТ**

**Каманднае спаборніцтва. Канкур**
1. Германія
2. ЗША
3. Бразілія

- **ХАКЕЙ НА ТРАВЕ. *Жанчыны***

1. Аўстралія
2. Паўднёвая Карэя
3. Нідэрланды

- **ФУТБОЛ. *Жанчыны***

1. ЗША
2. Кітай
3. Нарвегія

- **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

**Бег (200 м). *Жанчыны***
1. Мары-Жазэ Перэк (Францыя)
2. Мэрлін Оці (Ямайка)
3. Мары Аньялі (Нігерыя)
*14. Наталля Сафроннікава (Беларусь)*

**Бег (400 м). *Мужчыны***
1. Дэрык Адкінс (ЗША)
2. Самуэль Матэтэ (Замбія)
3. Кэлвін Дэвіс (ЗША)

**Бег (200 м). *Мужчыны***
1. Майкл Джонсан (ЗША)
2. фрэнкі Фрэдэрыкс (Намібія)
3. Ато Балдон (Трынідад і Табага)

- **ДЗЕСЯЦІБОР'Е**

1. Дэн О'Браен (ЗША)
2. Франк Буземан (Германія)
3. Томаш Дворак (Чэхія)
*5. Эдуард Хамяляйнен (Беларусь)*

# БЕЛАРУСКІЯ БІЗНЕСМЕНЫ Ў БРЫТАНІІ ПРАЦАВАЦЬ БАЯЦЦА, А БРЫТАНСКІЯ Ў НАС НЕ ЖАДАЮЦЬ

**Так ахарактарызавала становішча ў галіне бізнесу Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Яе Вялікасці каралевы Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс на прэс-канферэнцыі, што адбылася 2 жніўня.**

Па меркаванню спадарыні Пірс, беларускім бізнесменам не хапае амбіцый, што вельмі дрэнна, бо патэнцыял дзелавых людзей рэспублікі вельмі высокі. Бізнесмены ж з Вялікабрытаніі не спяшаюцца размяшчаць сваю справу на Беларусі, бо не бачаць гарантый захавання капіталу. «Калі для буйных кампаній неабходнасць «згарнуць» бізнес будзе непрыемнасцю і не прывядзе да банкруцтва, то для маленькіх гэта можа стаць крокам да знікнення», — адзначыла спадарыня пасол. Хоць Беларусь застаецца зонай рызыкі для замежных бізнесменаў, трэба паказаць ім, што варта рызыкнуць. Па меркаванню спадарыні пасла, час дзелавых кантактаў на ўзроўні кансультацый скончыўся. Надышла пара пераходзіць да канкрэтных спраў.

Сярод апошніх спадарыня Пірс назвала рэалізацыю буйнога праекта па стварэнню ў Лондане сумеснага Агенцтва па інвестыцыях, ініцыятыва арганізацыі якога належыць Міністэрству знешніх эканамічных сувязей Беларусі. Другі буйны праект — стварэнне ў РБ сумеснай Гандлёвай палаты — пакуль не знаходзіць трывалай падтрымкі, бо мэтазгоднасць з'яўлення такой структуры яшчэ сумніўная — няма значнай колькасці брытанскіх кампаній, якія б працавалі на беларускім рынку. З буйных фірмаў на Беларусі працуюць «Cable & Wireless», якая прапануе паслугі сотавай тэлефоннай сувязі («Белсел» — сумеснае прадпрыемства гэтай фірмы і Міністэрства сувязі РБ), «De la Rue», якая заключыла шэраг значных выдавецкіх кантрактаў, «Zeneca», што ажыццяўляе продаж сельскагаспадарчых хімікатаў. Вялікую цікаўнасць выклікаюць у брытанскіх кампаній праекты, звязаныя з авіяцыяй, супрацоўніцтва можа быць значным і ў арганізацыі паставак беларускага лёну, а таксама гарэлкі, вытворчасці завода «Крышталь», у прыватнасці «Белавежскай». Аднак спадарыня Пірс засяродзіла ўвагу на тым, што ў брытанскіх бізнесменаў вельмі высокія патрабаванні да якасці прадукцыі, арганізацыі паставак і іх своечасовасці.

Паведамляючы аб аб'ёмах гандлю паміж дзвюма краінамі, спадарыня пасол адзначыла, што тэндэнцыі росту экспарту і імпарту застаюцца ўстойлівымі: па стану на сакавік бягучага года рост брытанскага экспарту склаў 123,11 працэнта, імпарту — 24 працэнты. За мінулы год аб'ём брытанскага экспарту ў Беларусь дасягнуў 22,6 мільёна фунтаў стэрлінгаў, імпарту — 21 мільён. З Вялікабрытаніі мы атрымліваем прамысловыя станкі, медыкаменты, тэкстыль, хімікаты, іншыя прамысловыя тавары. Беларусь вывозіць металы і руду, адзенне, тэкстыль, драўніну.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## У СВЕЦЕ

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЕЛЬЦЫН НЕ ХВОРЫ, ЁН ВЕЛЬМІ СТАМІЎСЯ...

«Барыс Ельцын вельмі стаміўся і яму неабходны двухмесячны адпачынак», — заявіў дарадца расійскага прэзідэнта Сатараў у інтэрв'ю газеце «Сегодня». Тым не менш, Сатараў сцвярджае, што Ельцын знаходзіцца ў выдатнай інтэлектуальнай і фізічнай форме, а яго стан не мае нічога агульнага з такой сур'ёзнай хваробай, як, напрыклад, хвароба сэрца.

### У АЛЖЫРЫ ЗАБІТЫ ЕПІСКАП РЫМСКАЙ КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ

Епіскап Рымскай каталіцкай царквы П'ер Клавіры быў забіты ў Заходнім Алжыры ў выніку выбуху бомбы. Сілы бяспекі паведамілі, што ён загінуў ва ўласным доме, але ніякія дэталі здарэння невядомы. Міністэрства ўнутраных спраў ускладае віну за забойства на бербераў. Забойства адбылося адразу пасля сустрэчы біскупа з міністрам замежных спраў Францыі. Ісламскі вызваленчы фронт таксама асудзіў забойства. П'ер Клаверы нарадзіўся ў Алжыры ў сям'і француза, але актыўна падтрымліваў барацьбу за незалежнасць краіны ад Францыі.

### САМАЛІ ЗАСТАЛАСЯ БЕЗ ЛІДЭРА

Пайшоў з жыцця Махамед Фарах Айдыт — ваенны лідэр Самалі, які абвясціў сябе прэзідэнтам краіны. Агенцтва Рэйтэр са спасылкай на афіцыйныя крыніцы паведаміла, што Айдыт памёр ад ран, якія атрымаў у баі з сіламі апазіцыйнай самалійскай групоўкі. Айдыт — лідэр аднаго з уплывовых самалійскіх кланаў зверг у 1991 годзе былога прэзідэнта краіны. Хутка пасля гэтага пачаліся сутыкненні яго групоўкі з двума іншымі кланамі, у выніку чаго краіна была ўцягнута ў доўгую вайну, якая забрала жыцці 350 тысяч самалійцаў.

### БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ...

Нямецкая пракуратура звярнулася да італьянскіх уладаў з афіцыйнай просьбай аб выдачы былога капітана СС Эрыха Прытке. Улады ФРГ выдалі ордэр на яго арышт. Першага жніўня ваенны суд у Рыме зняў з Прытке абвінавачанне ў злачынствах супраць чалавецтва за даўнасцю злачынстваў. Прытке абвінавачвалі ў масавых пакараннях смерцю італьянцаў у 1944 годзе. Хоць падсудны і прызнаў сваю віну, суд зазначыў, што ён толькі выконваў загады. Прысуд выклікаў хвалю абурэння. Учора ноччу яго зноў арыштавалі. У германскім заканадаўстве няма палажэння пра тэрмін даўнасці для тых злачынстваў, у якіх абвінавачваюць былога капітана СС.

### ДОЎГ РАСІЯ АДДАЕ УРАНАМ І ВЕРТАЛЁТАМІ

Паўднёвая Карэя заявіла пра гатоўнасць прыняць ад Расіі партыю абагачанага урану і верталёты ў якасці пагашэння часткі запазычанасці былога СССР. Раней меркавалася, што Расія паставіць Паўднёвай Карэі партыю сталі на суму 90 мільёнаў долараў, але Масква не змагла выканаць гэта абавязацельства ў тэрмін. Доўг Расіі Паўднёвай Карэі складае больш за 450 мільёнаў долараў.

### СТАНОВІШЧА ЭМІГРАНТАЎ У ЗША ПАГОРШЫЦЦА

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан заявіў пра намер падпісаць указ пра сур'ёзнае скарачэнне выдаткаў на дапамогу маламаёмным у Амерыцы. Учора законапраект разглядала рэспубліканская частка Кангрэса. Паводле новага закона, на аплачваемы пошук работы беспрацоўнаму даецца два гады за адзін раз, а ўвогуле за ўсё жыццё — пяць гадоў. Таксама разглядаецца магчымасць адмовы ў дапамозе эмігрантам, якія не з'яўляюцца грамадзянамі ЗША.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-Рокс» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Пад пагрозай поўнага знішчэння аказалася 90 працэнтаў буйной рыгатай жывёлы — каля аднаго мільёна галоў — у жывёлагадоўчых паўночных раёнах бразільскага штата Рыо-дэ-Жанейра. Незвычайная сітуацыя склалася ў выніку масавага захворвання жывёл на шаленства, якое можа перадавацца і чалавеку.

Пераносчыкамі хваробы з'яўляюцца лятучыя мышы-вампіры, якія харчуюцца крывёй кароў, коней, коз і іншых жывёл. Менавіта ў жывёлагадоўчых раёнах штата з'явіліся велізарныя калоніі лятаючых крывасмокаў. Сляды іх укусаў знойдзены практычна ў кожнай другой жывёліны.

**ІТАР-ТАСС.**

Пасля трохдзённай праверкі якасці гарэлкі «Абсалют» спецыялісты шведскай дзяржаўнай віннай манаполіі ўстанавілі, што атручэнне метанолам, зарэгістраванае ў адным з гарадоў краіны ў выніку ўжывання гэтага папулярнага напою, было выпадковым. Ніякіх іншых адхіленняў ад нарматываў выяўлена не было, і бутэлькі з «Абсалютам» зноў вярнулі на паліцы. Дазволены гандаль «Абсалютам» і ў Фінляндыі, дзе гарэлка таксама была знята з продажу.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Юны жыхар Набярэжных Чаўноў, пасварыўшыся са сваёй 18-гадовай Джульетай, адпомсціў тым, што ціха падышоў да яе і ўваткнуў ніжэй пояса шпрыц, які быў напоўнены... ртуццю. У цяжкім стане дзяўчына адпраўлена ў бальніцу — частка атруты трапіла ў кроў.

**ЕАН.**

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

У КАЗЯРОГА з'явіцца адразу некалькі магчымасцей «схапіць за хвост» птушку шчасця, аднак вам удасца выкарыстаць толькі адну. Удача ўсміхнецца толькі тым, хто не супакойваецца на дасягнутым, а шукае новыя перспектывы. Сямейнае жыццё будзе без узшурэнняў і прынясе адну асалоду.

ВАДАЛЕЯМ выпадзе ўдалы час для новага бізнесу ці падарожжаў. Але да ад'езду ў круіз не прапусціце сустрэчу, якая акажа ўздзеянне на вашу кар'еру і лад жыцця. Праявіце цвёрдасць на перамовах з дзелавымі партнёрамі. Вы ўпарта працавалі ў імя агульнай мэты і павінны атрымаць узнагароду за сваю працу.

РЫБЫ дасягнуць большага, чым самі жадалі. Справы, якія разглядаліся дзяржструктурамі, вырашацца на вашу карысць. Урачы, юрысты, архітэктары будуць загружаны работай па горла. Затое дома будзе панаваць святочны настрой. Маладыя могуць атрымаць прапанову ўзяць шлюб ад асобы, што жыве за мяжой.

АВЕНЫ павінны атрымаць дапамогу ў дзелавой дзейнасці, і яна пойдзе больш паспяхова, чым раней. Дзяржслужачыя могуць запасацца шампанскім — мары пра павышэнне па службе стануць рэальнасцю. Тыя, хто асаджае АВІР, атрымаюць замежны пашпарт. Рызыковым фінансавым аперацыям зоркі спрыяць не будуць, таму ад гульняў з лёсам лепш устрымацца.

ЦЯЛЬЦАМ трэба больш працаваць, быць больш уважлівымі, каб пазбегнуць памылак. Своечасова плаціце па рахунках і тады не будзе непрыемнасцей у будучыні. Ваеннаслужачыя, якім сняцца сны пра павышэнне іх у званні, на жаль, атрымаюць зусім іншае. Перавод у аддалены гарнізон адбудзецца па прычыне рапарта, які накатаў на вас тайны нядобразычлівец.

БЛІЗНЯТАМ трэба крыху рызыкнуць сваімі фінансамі, каб атрымаць хуткія дывідэнды ў бізнесе. Гэта не азначае канфлікту з законам, паважаць які зоркі асабліва раяць у наступныя сем дзён. Прыкрыя праблемы перашкодзяць рамантычным прыгодам, але неўзабаве можна будзе навярстаць упушчанае.

У РАКАЎ скончыцца няпэўнасць на рабоце і ў бізнесе. Заключаныя кантракты прынясуць выдатныя вынікі. Затраты хутка акупяцца. Кар'ера ў медыкаў і ваенных пойдзе ўгору. А ў замужніх жанчын наступяць цяжкія часы з-за няўдач мужоў. Вечна з-за іх адны непрыемнасці.

ІЛЬВАМ давядзецца прымаць важныя рашэнні, на хаду ўносіць змяненні ў свае дзеянні, быць больш мабільнымі і актыўнымі. Уладальнікі невялікіх прадпрыемстваў атрымаюць кучу заказаў і будуць заняты работай. Тыя, хто ў разводзе, убачаць перспектыву новага шлюбу, які будзе больш трывалы і працяглы за папярэдні.

ДЗЕВАМ зоркі раяць не губляць пільнасці ні дома, ні на рабоце. Тыя, хто знаходзяцца на дзяржаўнай службе, могуць атрымаць цяжкае заданне. За яго выкананнем не забывайцеся пра сям'ю. Магчымы спробы ўскладніць вашы адносіны са сваякамі і стварыць праблемы для дзяцей.

ШАЛІ чакаюць падарожжы, пад'ём свайго адукацыйнага ўзроўню ці... судовыя цяжбы. Справы на рабоце пойдуць роўна і без асаблівых перамен. Не страчвайце кантакты з тымі, хто можа дапамагчы вашай кар'еры. Асабістае жыццё адыдзе на другі план, што паслужыць выпрабаванню вашых пачуццяў.

СКАРПІЁНЫ, якія лічацца прафесіяналамі ў любым відзе дзейнасці, апынуцца ў зоне ўсеагульнай увагі. Пашана і павага не выключаюць атрымання фінансавых дывідэндаў. Яны спатрэбяцца для дапамогі сваякам, якія звернуцца з просьбай аб падтрымцы. Няпэўнасць можа скласціся ў адносінах з любімым чалавекам. Магчыма нават развітанне з ім на кароткі тэрмін.

СТРАЛЬЦАМ зоркі гарантуюць поспех ва ўсім і паўсюдна. Не трэба толькі расслабляцца і спачываць на лаўрах. Не бярыцеся за тое, да чаго няма інтарэсу ці схільнасці. Невялікія праблемы ў сям'і прымусяць вас ахвяраваць нечым у дзелавой дзейнасці. Перанесці на іншы час давядзецца запланаваны адпачынак ці падарожжа.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**

# «ЯЛАВІЧНЫ КРЫЗІС» НЕ ЗАКРАНУЎ БЕЛАРУСЬ

Заражанае вірусам губчатай энцэфалапатыі (шаленствам кароў) мяса з Англіі можа трапіць на тэрыторыю Расіі праз трэція краіны. Такое апасенне выказаў эксперт гандлёвага прадстаўніцтва Расійскай Федэрацыі ў Лондане, які прасіў не называць яго імя. «Нават у разгар «ялавічнага крызісу», які бушаваў у Вялікабрытаніі некалькі месяцаў таму, зарэгістраваны выпадкі, калі брытанская ялавічына трапляла на расійскі рынак транзітам праз Ізраіль», — сказаў ён у інтэрв'ю карэспандэнту ІТАР-ТАСС.

Гэта небяспека пагражае і Беларусі, якая, як вядома, знаходзіцца з Расіяй у адзінай мытнай прасторы. Зрэшты, імпарт мяса і мясапрадуктаў з Англіі і Ірландыі ў нашу краіну быў забаронены яшчэ ў 1990 годзе. Услед за гэтым паступіла забарона на ўвоз ялавічыны з Францыі, Партугаліі і Швейцарыі, дзе таксама былі выяўлены выпадкі захворвання жывёлы. За гэты час былі зарэгістраваны нямногія спробы імпарту няедабраякаснага мяса, апошняя спынена ў мінулым годзе — партыю англійскай ялавічыны везлі на тэрыторыю Украіны пад выглядам гуманітарнай дапамогі.

Тры гады таму Беларусь стала членам Міжнароднага эпазаатычнага бюро, куды ўваходзяць 143 дзяржавы свету. Спецыялісты галоўнага ўпраўлення ветэрынарыі пры Мінсельгасхарчы рэспублікі валодаюць самай аператыўнай інфармацыяй. Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА начальнік упраўлення Станіслаў Шпілеўскі, у беларускіх спажыўцоў няма асаблівых падстаў для неспакою. Даць дазвол на ўвоз мяса могуць толькі тры чалавекі ў дзяржаве — міністр сельскай гаспадаркі і харчавання і два яго намеснікі, вядома, пасля ветэрынарнай экспертызы прадукту. Пад асобным кантролем знаходзяцца калгасныя рынкі і нават прыватныя паштовыя адпраўленні з прадуктамі.

Пытанні рээкспарту з тэрыторыі Расіі ў свой час былі ўзгоднены з Дэпартаментам ветэрынарыі Расійскай Федэрацыі. Пасля гэтага, у прыватнасці, з прылаўкаў беларускіх магазінаў зніклі амерыканскія і галандскія курыныя кумпячкі, якасць якіх таксама выклікае сумненне.

Апасенні беларускай ветэрынарнай службы цалкам абгрунтаваныя. Урон, які могуць нанесці жывёлагадоўлі краіны нават чуткі аб заражэнні жывёлы, вылічаецца не адным мільярдам рублёў. Напрыклад, у Англіі толькі меркаванні вучоных аб тым, што авечкі, гэтак жа як і каровы, схільныя да захворвання губчатай энцэфалапатыяй, прывялі да зніжэння цэн на бараніну на 20 працэнтаў.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

ТРАГЕДЫІ

# КУДЫ ПАДЗЕЎСЯ НЕСЛУХ ЖЭНЯ?

Дзікі па сваёй сутнасці выпадак адбыўся ў Гомелі. Жыхары аднаго дома з Заходняга мікрараёна западозрылі дрэннае: тры месяцы ўжо на двары не з'яўляецца дзесяцігадовы Жэня К., які сваімі ўчынкамі абрыдзеў многім. Куды ён мог падзецца, запыталі яны ў міліцыі? І вось што ўстанавілі яе работнікі.

Маці Жэні, якая нідзе не працавала, так выхавала яго, што ўжо сама не магла справіцца з ім. Таму і вырашыла прымяніць да неслуха самыя крайнія (?!) меры. А менавіта: сёлета ў маі, як яна прызналася следчаму, утапіла яго ў ванне, а потым з дачкой-шасцікласніцай загарнулі труп хлопчыка ў посцілку і ў пяць гадзін раніцы на тачцы ўдваіх вывезлі яго ў лясны масіў каля радыёзавода і закапалі. Ва ўказаным месцы ён і быў знойдзены.

Акалічнасці ўзбуджанай крымінальнай справы яшчэ высвятляюцца.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ТОЛЬКІ З ТАБОЮ

*Верш Адама Русака* *Музыка Ісака Любана*




Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою.
Радасць, і гора, і шчасце дзяліць
Толькі з табою.

Ранняй часінай к табе я лячу,
Позняй парою,
Толькі к табе прытуліцца хачу
Сэрцам, душою.

Выйсці у поле, дзе нівы шумяць
Там за ракою,
Першую зорку на небе спаткаць
Толькі з табою.

Гэтак не страшны цяжкія шляхі
Будуць з табою,
Гэтак ісці неразлучна ў жыцці
Толькі з табою.

Сціпласць — характэрная рыса яго паводзінаў. Яго песні гучалі па ўсёй Беларусі — а ён ціха, нават непрыметна, трымаўся сярод сяброў, калегаў. На літаратурна-музычных вечарынах, прысвечаных яго юбілейным датам, весела, з усмешкамі і жартамі выступалі артысты, дзеячы культуры — а ён неяк сарамліва выходзіў на сцэну, выказваў словы ўдзячнасці прысутным, потым чытаў свае вершы. Такім быў Адам Герасімавіч Русак.

Паэт падтрымліваў творчыя адносіны з многімі кампазітарамі, з некаторымі сябраваў. «Лясная песня», пакладзеная на музыку Уладзімірам Алоўнікавым, адлюстравала лёс і адчуванні цэлага пакалення. Несцер Сакалоўскі прадоўжыў музычнымі сродкамі фальклорна-інтанацыйны лад верша «Чырвоная вяргінечка». Задушэўнасць, лірычнасць твораў Адама Русака, дакладная іх змястоўнасць прыцягвалі ўвагу кампазітараў розных схільнасцей. Да верша «Ціхі вечар» музыку напісаў Генрых Вагнер, «Не за вочы чорныя» — Юрый Семяняка, «Дзе ты, зорка мая» — Ігар Лучанок.

Плённым для паэта аказалася супрацоўніцтва з Ісакам Любанам. Яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны шырока пайшла ў народ іх сумесная песня «Бывайце здаровы» (гл. «Звязда», 1995, 2 снежня). У 50-я гады трывала ўвайшлі ў актыўны фонд беларускай эстрады песні «Толькі з табою», «Не шукай», «Песня Марыны» (гл. «Звязда», 1996, 20 красавіка).

Песня «Толькі з табою», створаная Адамам Русаком і Ісакам Любанам у 1955 годзе, адразу палюбілася людзям.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## *Сяргей ГРАХОЎСКІ*

### Прыгажосць зямлі і неба

Калі у буйных зорах бачу неба
І ў шызай хмарцы — тонкі маладзік,
Я думаю: пажыць хоць трохі трэба,
Пакуль у зрэнках гэты свет не знік.

Парадавацца веснавой дажджынцы
І дню, што з кожнай раніцай даўжэй,
Драбочку солі і сухой скарынцы,
Што за ўсяго на свеце даражэй,

Сачыць за лёгкакрылай аблачынкай,
За зоркай, што над полем узышла,
Залюбавацца тоненькай дзяўчынкай,
Што выплыла з дажджынак і святла

І раптам знікла у світальным дыме,
І не даклікацца яе і не спыніць,
Яна надоўга мой спакой адыме
Мелодыяй, што у душы звініць

І славіць прыгажосць зямлі і неба,
Дзявочую красу і чысціню...
Я думаю, пажыць хоць трохі трэба
І пакланіцца заўтрашняму дню.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА

### «Ці ведаеце вы іх прозвішчы?»



**По гарызанталях і вертыкалях:**
1. Выдатны савецкі скульптар, аўтар многіх скульптурных выяў у мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой». 2. Пісьменнік, аўтар дакументальных аповесцей «Руіны страляюць ва ўпор», «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску». 3. Рускі жывапісец-пейзажыст XIX ст., аўтар карцін «Паводка», «Уладзіміраўка» і г. д. 4. Славуты рускі флатаводзец, адмірал. 5. Беларускі кампазітар, народны артыст, аўтар мноства папулярных песень. 6. Пісьменнік, аўтар рамана «Сустрэнемся на барыкадах». 7. Беларускі тэатральны рэжысёр, акцёр, драматург, народны артыст Беларусі. 8. Лётчык-касманаўт СССР, удзельнік першага ў свеце палёту на неаднамесным касмічным караблі «Усход». 9. Першы беларус — Герой Савецкага Саюза. 10. Рускі рэвалюцыйны публіцыст-дэмакрат, літаратурны крытык. 11. Рускі мораплавец, даследчык Антарктыкі, адмірал. 12. Рускі і беларускі жывапісец, аўтар карціны «Народны сход у Заходняй Беларусі». 13. Беларускі харавы дырыжор, музыказнаўца, народны артыст СССР. 14. Пісьменнік, Герой Сацыялістычнай Працы, аўтар рамана «Жывыя і мёртвыя». 15. Выдатны ўкраінскі паэт, перакладчык і сябар Я. Коласа. 16. Лётчык-касманаўт СССР, двойчы Герой Савецкага Саюза. 17. Савецкі селекцыянер і раслінавод, пераўтваральнік прыроды. 18. Вядомы военачальнік, Маршал Савецкага Саюза. 19. Рускі электратэхнік, вынаходнік, стваральнік лямпачкі напальвання. 20. Беларускі жывапісец, народны мастак Беларусі, аўтар карціны «Партызанская мадона».

**Склаў Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## КРЫПТАГРАМА




Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка вядомую слушную ўзбекскую прымаўку.
а) 1-2-3-4-5-6-7-8-9 — машына для перамяшчэння грунту на невялікую адлегласць;
б) 10-11-12-13-14 — хваёвае дрэва;
в) 15-8-16-17 — парламент у Польшчы;
г) 18-14-19-20-21-22-14 — прэпарат для лячэбных прывівак;
д) 19-3-23-24 — прылада да замка.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## УСМЕШКА МАСТАКА






Малюе Леанід РАЗЛАДАЎ.

## Праверце, калі ласка, адказы

**КРЫЖАВАНКА** ***(26 ліпеня).*** **Па гарызанталях:** 5. Арлан. 6. «Ляўкі». 8. Супервокладка. 12. Гайна. 13. Знямога. 14. Старт. 17. Рубрыка. 18. Урубель. 20. Народ. 21. Лівія. 24. Прэзент. 26. Кларнет. 29. Анюта. 30. Штандар. 31. Эфект. 34. Рэкультывацыя. 35. Плынь. 36. Грунт. **Па вертыкалях**: 1. Трупа. 2. Сапрана. 3. Бярлога. 4. Скуда. 7. Боцман. 8. Сінхранізатар. 9. Аўтабіяграфія. 10. Гарун. 11. Кроль. 15. Скарына. 16. Правіла. 22. Ірына. 23. Пешка. 25. Саната. 27. Штольня. 28. Пачвара. 32. Шкала. 33. Сцэна. *Па дузе*: 19. «Александрына».

**ПЫТАННІ З ПАДВОХАМ** ***(26 ліпеня).*** Гэтыя пытанні былі з т. зв. самаабмежаваннем. Сутнасць самаабмежаванняў бачная ў адказах на пытанні.

1. Кубачак быў напоўнены да краёў сухой кавай, таму і пальцы засталіся сухімі. 2. Бацька быў зусім лысы, таму, натуральна, ні адна валасінка на галаве не прамокла. 3. Дзядзька быў невідушчым і чытаў кніжку навобмацак, па спецыяльнай рэльефнай азбуцы.

Мяркуючы па рэакцыі чытачоў, рэдка хто з іх здолеў адшукаць гэтыя нестандартныя адказы. Бо не кожны ўспамінае, што кава можа быць не толькі варанай, што мужчына можа быць без шавялюры, што чалавек можа быць не толькі відушчым.

## 36,6°

### Аліўкавы алей супраць рака малочнай залозы

У ходзе спецыяльнага даследавання грэчаскімі вучонымі былі старанна вывучаны звычкі харчавання ў 820 жанчын, хворых на рак малочнай залозы, і для параўнання — у 1548 здаровых жанчын.

У тых жанчын, што гатавалі ежу з прымяненнем аліўкавага алею часцей за адзін раз у дзень, рызыка ўзнікнення рака малочнай залозы зніжалася на чвэрць у параўнанні з жанчынамі, якія выкарыстоўвалі аліўкавы алей адзін раз у дзень ці радзей.

Для прафілактыкі захворвання грэчаскія вучоныя-анколагі рэкамендуюць жанчынам ужываць у ежу больш агародніны, фруктаў і аліўкавага алею, якія вельмі багаты ненасычанымі тлустымі кіслотамі.

*«Домашний доктор».*

Віншуем **Уладзіміра Сямёнавіча ЛАРЫЁНАВА** з днём нараджэння. Жадаем усяго самага найлепшага.

***Сям'я.***

Віншуем з днём нараджэння **Андрэя Уладзіміравіча КЛОКАЛА**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і жыцці.

***Віктар, Люба, Лена, Дзіма, Оля.***

Віншую з 60-годдзем **Ніну Яўгенаўну БЫЧКОЎСКУЮ** з в. Валавель. Жадаю моцнага здароўя, шчаслівага даўгалецця.

***Сват Мікалай.***



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4287.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12